НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

Л.У. Дучыц

# Касцюм жыхароў Беларусі

## *X–XIII стст.*

(паводле археалагічных звестак)

*3-е выданне*



Мінск
«Беларуская навука»
2005

УДК 391(=161.3)«9/12»
ББК 63.5(4Беи)
Д 85

Н а в у к о в ы р э д а к т а р
доктар гістарычных навук
Г. В. Штыхаў

Р э ц э н з е н т ы:
кандыдаты гістарычных навук
Л. У. Калядзінскі, С. В. Тарасаў,
кандыдат мастацтвазнаўства
М. Ф. Раманюк

**Дучыц, Л. У.**
Д 85 Касцюм жыхароў Беларусі X—XIII стст.: (паводле археал. звестак) / Л. У. Дучыц; навук. рэд. Г. В. Штыхаў. — 3-е выд. — Мн.: Бел. навука, 2005. — 80 с.: іл.
ISBN 985-08-0639-7.

Упершыню кніга выйшла ў 1995 г.

Разглядаюцца вытокі беларускага касцюма. На падставе археалагічных звестак характарызуюцца асноўныя віды адзення, галаўныя ўборы, упрыгожванні, абутак, іншыя дэталі касцюма. Сялянскі касцюм падаецца як этнічны індыкатар, паказваюцца яго рэгіянальныя асаблівасці. Аддаецца ўвага касцюму гараджан і знаці.

Разлічана на шырокае кола чытачоў.

**УДК 391(=161.3)«9/12»**
**ББК 63.5(4Беи)**

**ISBN 985-08-0639-7**

# УСТУП

Касцюм — адно з праяўленняў матэрыяльнай культуры, крыніца па вывучэнню этнічнай гісторыі народа, яго культуры, сувязей з іншымі народамі. Развіццё касцюма, як і іншых галін культуры, праходзіла ў залежнасці ад эканамічных асноў жыцця і палітычнага стану. У гісторыі грамадства касцюм выконваў розныя функцыі — адрозненне па полу, узросту, сямейнаму становішчу, этнічнай і рэлігійнай прыналежнасці, а таксама абрадавую. Паняцці «адзенне» і «касцюм» у многім сходныя, але маюць і адрозненні.

Адзенне ўключае ў сябе розныя віды покрываў чалавека — бялізну, наплечнае і паяснос адзенне, шкарпэткі, абутак, галаўныя ўборы. Адзенне, дапоўненае аксесуарамі, упрыгожваннямі і прычоскай, складае касцюм. Па касцюму можна меркаваць і пра мастацкі густ людзей. На кожным гістарычным этапе адзенне змянялася па матэрыялу, крою, колеру, эстэтычнаму афармленню. Мода заўжды ўяўляла сабой сінтэз усіх відаў мастацтва.

Першым адзеннем былі скуры жывёл і расліны. Іх пераплялі, накідваючы на плечы і сцёгны. Так нарадзіліся два тыпы адзення — плечавое і паяснос.

Па палеалітычных выявах чалавека, малюнках на костках жывёл і старажытнейшых пахаваннях устаноўлена, што ўжо ў палеаліце шылі футравае адзенне, якое закрывала ўсё тулава і галаву, а таксама штаны, накідкі накшталт сучасных плашчоў. Адзенне зашпільвалася касцянымі гузікамі. Упрыгожванні рабіліся з ракушак, клыкоў жывёл, костак. Ведалі і абутак.

У новым каменным веку — неаліце (4-е тысячагоддзе да н. э.) — людзі навучыліся вырабляць тканіны, выгляд якіх можна ўявіць па іх адбітках на гліняным посудзе. Мяркуючы па знаходках у балотах Заходняй Еўропы і Скандынавіі, дзе добра захоўваюцца рэшткі адзення першабытных часоў, можна ў агульных рысах скласці ўяўленне аб касцюме таго перыяду і на нашых землях. У жанчын гэта сукенка, кашуля, спадніца, у мужчын — кашуля і порткі. Рукавы ў жаночым адзенні рабіліся рознай даўжыні і часта расшыраліся кнізу. Паясы як у жанчын, так і ў мужчын былі скураныя, упрыгожаныя бронзай[1]. На неалітычных помніках Беларусі знойдзена шмат караляў і гузікаў. Каралі складваліся ў парнай сіметрыі. У цэнтры змяшчаліся падвескі з зубоў

жывёл, фігурных касцяных пласцінак, бурштыну, па краях ішлі меншыя і зусім маленькія падвескі. На адзенне нашываліся квадратныя і прамавугольныя бурштынавыя гузікі[2]. У часы неаліту вынайдзена большасць элементаў геаметрычнага арнаменту, якія спалучаліся ў розных камбінацыях[3]. Хутчэй за ўсё арнаментамі, вядомымі па гліняным посудзе, упрыгожвалася і адзенне. Нават многія элементы беларускага народнага касцюма канца XIX — пачатку XX ст. знаходзяць аналогіі менавіта ў арнаменце неалітычнага посуду.

У бронзавым веку (канец 3-га — пачатак 1-га тысячагоддзя да н. э.) нашы продкі насілі ўжо скроневыя кольцы ў выглядзе спіралепадобных і акулярападобных падвесак, дротавыя бранзалеты. Напрыклад, ва ўрочышчы Стрэліца каля в. Рудня Шлягінская Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці добра вывучаны могільнік сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. Тут раскапаны 94 грунтавыя пахаванні па абраду трупаспалення, за выключэннем аднаго трупапалажэння. Пры гэтым знойдзены медныя бранзалеты, грыўні, бурштынавыя падвескі, шкляныя, у тым ліку бісерныя, і адна егіпецкая фаянсавая пацеркі. На паселішчах тшынецкай і сосніцкай культур (Заходняе Палессе) вядомы шматспіральныя бранзалеты з закручанымі канцамі, а таксама медныя пацеркі і пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы.

У эпоху жалезнага веку (з VII ст. да н. э.) аб касцюме дайшло да нашага часу больш звестак. У многіх пахаваннях на металічных вырабах і абломках посуду захаваліся кавалачкі шарсцяных і льняных тканін. Яны нагадваюць вядомыя тканіны хатняга вырабу. Пры раскопках помнікаў гэтага перыяду знаходзяць жалезныя і бронзавыя шпількі, бранзалеты, пярсцёнкі, шыйныя грыўні, бразготкі, трапецападобныя падвескі (мал. 1). На поўдні Беларусі вядома шмат гліняных і шкляных пацерак, сярод якіх сустракаюцца чырвоныя рымскія, а таксама іншыя імпартныя рэчы: скіфскія цвікападобныя завушніцы, шпількі, рымскія і кельцкія фібулы (зашпількі для адзення). У тыя часы рабілі таксама ўпрыгожванні з эмаллю (падвескі, спражкі, фібулы). Каштоўнай знаходкай з'яўляецца скураны пояс, знойдзены ў жаночым пахаванні грунтавога могільніка I ст. да н. э. каля в. Атвержычы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Пояс уяўляў сабой кавалак скуры, упрыгожаны пласціначкамі і паяснымі кручкамі. Ён быў зроблены па ўзору паўночнагерманскіх паясоў[4]. У раннім жалезным веку насілі ўжо сярэбраныя ўпрыгожванні. Увогуле наборы ўпрыгожванняў паказваюць, што на касцюм нашых продкаў у тыя часы на поўдні Беларусі мела ўплыў адзенне скіфаў і кельтаў, а ў яе паўночнай і цэнтральнай частцы насілі тыпова балцкія касцюмы.

Найбольш звестак аб касцюме пачатку 2-га тысячагоддзя— часоў Полацкага і Тураўскага княстваў. Менавіта ў гэтыя часы па-

чыналася станаўленне беларускага этнасу і яго лакальных асаблівасцей. Гэта адбівалася і на касцюме, які ў старажытнасці з'яўляўся яскравым этнічным індыкатарам. Пытанне аб тым, як апранацца, перапляталася з праблемамі сацыяльнага статуса і маралі. Касцюм строга залежаў ад узросту, асабліва ў жанчын (дзяўчынка, дзяўчына, маладзіца, кабета, пажылая жанчына, старая). Пачатак 2-га тысячагоддзя быў часам росквіту культуры ва ўсёй Еўропе, асабліва розных мастацкіх рамёстваў — чаканкі, ліцця, гравіроўкі па металу, разьбы па косці, мастацкага ткацтва, вышыўкі і інш. Рамеснікі валодалі складанымі тэхнічнымі прыёмамі, такімі, як зернь, скань, чэрнь, пазалота. У некаторых гарадах была развіта вытворчасць шкляных бранзалетаў. Высокай дасканаласці дасягнуў выраб скуранога абутку і яго аздабленне.

Для вывучэння касцюма X—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі маецца шмат крыніц. Гэта летапісы, манументальныя роспісы, мініяцюры рукапісаў, абразы, вырабы дробнай пластыкі і інш. Цікавасць уяўляюць мініяцюры Радзівілаўскага летапісу (618 мініяцюр), дзе паказаны ўсе бакі жыцця, у тым ліку і народныя святы. .Мяркуецца, што Радзівілаўскі летапіс быў складзены менавіта ў Полацку[5]. Асноўнай жа крыніцай для вывучэння касцюма пачатку 2-га тысячагоддзя, асабліва вясковага, з'яўляюцца археалагічныя даныя, у прыватнасці вынікі раскопак пахаванняў. Аднак трэба заўважыць, што мы маем справу найбольш са святочным уборам, які адначасова быў і пахавальным. З дапамогай рэчавых скарбаў часткова можна ўявіць касцюм знаці. У час археалагічных раскопак знаходзяць не толькі ўпрыгожванні, але і рэшткі адзення, галаўных убораў у выглядзе кавалачкаў шарсцяных, ільняных, канапляных і шаўковых тканін, кавалачкаў скуры ад паясоў, шапачак, сумачак і абутку. Ёсць знаходкі вязаных рэчаў і рэчаў з вышыўкай.

На наш час назапашаны вялікі матэрыял, які ў асноўным надрукаваны. Асабліва шмат артыкулаў, прысвечаных скураному абутку. На падставе ўсіх даных можна ўявіць, як апраналіся нашы продкі амаль тысячу гадоў назад. У рэканструкцыі касцюмаў пэўную ролю адыгрываюць ужо праведзеныя ў гэтым напрамку працы на суседніх тэрыторыях — у Латвіі, Літве, Польшчы, на Украіне, Смаленшчыне і наогул даследаванні па Еўропе[6], а таксама этнаграфічны матэрыял[7]. Дадзеная праца з'яўляецца першым абагульненнем археалагічнага матэрыялу з тэрыторыі Беларусі, звязанага з касцюмам.

# 1. ТКАНІНЫ І АСНОЎНЫЯ ВІДЫ АДЗЕННЯ

## ТКАНІНЫ

Ткацтва з'явілася яшчэ ў эпоху неаліту. Для яго выкарыстоўваліся шэрсць, лён, каноплі, крапіва. Шмат узораў тканін захавалася ад часоў Полацкага і Тураўскага княстваў. Знойдзены таксама тасьма, розныя шнуркі, кавалачкі тканін з вышыўкай. Вядомы і прывазныя шаўковыя тканіны[1]. Беленае палатно ў летапісах згадваецца нароўні з каштоўным шоўкам і сукном. Археалагічныя тканіны ў нас амаль не вывучаліся. Выключэнне складаюць невялікія даследаванні курганных знаходак з Наўраў, Чарневіч, Псуі (Паўночная Беларусь) і Вензаўшчыны (Панямонне), якія правёў у 30-я гады З. Яворскі. Напрыклад, тканіны з Чарневіч зроблены ў дзве ніткі таўшчынёй 1 мм простым крыжападобным перапляценнем. У нітках адзначана прымесь ільну і мачала ад лыка. Тканіны з Наўраў выраблены ў чатыры ніткі касым перапляценнем[2]. Кавалачкі тканін знойдзены пры раскопках курганных могільнікаў каля Заслаўя, Чаркасова Аршанскага, Янушкавіч Лагойскага, Сакольнікаў Віцебскага раёнаў і ў шэрагу іншых мясцін. Знаходкі шарсцяных і льняных тканін вядомы ў культурных слаях такіх гарадоў, як Полацк, Мінск, Бярэсце, Гародня, Мсціслаў, Слонім. Сустракаюцца знаходкі сукна з авечай шэрсці на льняной аснове. Сярод заслаўскіх тканін ёсць ільняныя ў дзве ніткі і шарсцяныя ў чатыры ніткі. Знойдзены Ю. А. Заяцам у Заслаўі ў 1977 г. кавалачак тканіны памерам 9×12 мм быў апрацаваны ў Навукова-даследчым інстытуце судовай экспертызы Міністэрства юстыцыі Беларусі. Устаноўлена, што тканіна выраблена шляхам аднапраднай правабаковай круткі ніткі пляценнем «трыкатаж». Валокны ніткі былі з пушковай шэрсці з нязначнай колькасцю валосся светла-аліўкавага і светла-карычневага колераў[3]. Сярод полацкіх знаходак — ільняное палатно, тканае «ў елачку». У Гародні знойдзены грубая шарсцяная тканіна карычняватага колеру, тканая «ў елачку», а таксама абрыўкі кручаных нітак і шнуроў з ільну і канапель. Унікальнай з'яўляецца знаходка амаль не пашкоджанага цёплага адзення з культурнага слоя Віцебска. Добра захавалася адзенне ў пахаванні з Мінска. Тут вакол чэрапа была лёгкая тканіна палатнянага перапляцення (радзіна), а ад верхняга адзення засталіся рэшткі шарсцяной тканіны. З такой жа тканіны зроблены пояс і каўнер. Аднак гэтыя знаходкі засталіся не даследаванымі[4]. У канцы мінулага стагоддзя на Бабруйшчыне пры

расчыстцы сажалкі быў знойдзены касцяк, апрануты ў адзенне з тоўстай тканіны, упрыгожанай прадзетымі наскрозь бронзавымі пласцінкамі, спіральнымі пранізкамі і ланцужкамі[5]. Мяркуючы па такіх упрыгожваннях, касцяк адносіцца да XI—XII стст.

Прадзенне і ткацтва займалі адно з важных месцаў у гаспадарцы. Самым цяжкім працэсам быў выраб нітак, што займала 75% агульных затрат вытворчасці. Далейшыя аперацыі хоць і складалі 25% затрат, але патрабавалі высокіх прафесійных навыкаў і спецыяльнага абсталявання. Ніткі як з шарсцянога, так і расліннага валакна пралі на ручным верацяне. Акрамя верацяна была падстаўка-пралка, якая служыла для мацавання кудзелі і пражы. У тыя часы быў вядомы ўжо і гарызантальны ткацкі станок. Сярод археалагічных матэрыялаў у Мінску, Гародні, Віцебску, Слоніме і ў іншых гарадах знойдзены дэталі такіх драўляных ткацкіх станкоў. У Віцебску ёсць і дэталі ад вертыкальнага станка. Знойдзены прасвідраваныя костачкі, якія выкарыстоўваліся для ссуквання нітак, вялікія касцяныя і драўляныя грабяні з кароткімі зубцамі для часання льну і абломкі рагулек для насадкі кудзелі пры прадзенні. На ткацкіх станках шырыня вырабляемага палатна не перавышала 45—58 см. Самымі распаўсюджанымі былі тры сістэмы ткацкіх перапляценняў: палатнянае, саржавае і камбінаванае. Пры палатняным перапляценні ніткі асновы і ўтку размяшчаліся ў шахматным парадку. Вонкавы і адваротны бакі мелі аднолькавы выгляд. Саржавае перапляценне было больш складаным. Пры ім ніткі размяшчаліся так, што рабілі малюнак з дыяганальных палосак. Сустракаюцца два віды такога перапляцення: простае (дыяганалі аднолькавыя) і складанае (дыяганалі неаднолькавыя). Тканіны камбінаваных перапляценняў нагадваюць рэпсавае перапляценне. У тыя часы ўмелі ткаць і бранай тэхнікай з дапамогай лучынак і дошчачак. Атрымліваўся правільны геаметрычны ўзор, скампанаваны ў выглядзе дробных квадратаў ці ромбаў.

Пры дапамозе чаргавання афарбаваных у розны колер нітак выраблялі клятчатыя тканіны. Дэкаратыўнасць тканін дасягалася прымяненнем розных складаных перапляценняў з увядзеннем у тканіну яркіх нітак, скручаных у выглядзе тонкага шнурочка. Уяўленне аб тагачасных тканінах даюць знаходкі на суседняй Смаленшчыне (Боўшава і Умшары Дарагабужскага раёна). Так, тканіна з Боўшава шарсцяная сінявата-чорнага колеру і на прасвет выглядае вельмі рэдкай. Перапляценне ў яе палатнянае, месцамі пераходзіць у саржавае і робіць ажурныя ромбы. У ромбах змешчаны дэкаратыўныя матывы накшталт васьміканцовых разетак. Шарсцяныя ніткі, якімі вытканы ўзор, былі іншай якасці, чым сама тканіна. Яны скручаны ў выглядзе тонкага шнура. Тут жа знойдзены і фрагменты шарсцяной тканіны цёмна-чырвонага колеру

з узорамі ў выглядзе ромбікаў, выкананых на чатырох нітках і выбраных іголкай на аснове і ўтку шарсцяной ніткай залаціста-жоўтага колеру[6].

Звычайна ў зямлі шарсцяныя тканіны становяцца бурымі і губляюць свой першапачатковы колер, але ў выніку лабараторных даследаванняў выяўляецца наяўнасць на многіх шарсцяных кавалачках тканін фарбавальнікаў. Сустракаюцца тканіны чорнага, светла-карычневага, зялёнага і іншых колераў. Напрыклад, берасцейскія тканіны былі карычневыя, зялёныя, жоўтыя, чырвоныя. У Бярэсці знойдзены тканіны з палосамі жоўтага, зялёнага, чырвонага колераў. У Навагрудку былі тканіны з чорных, чырвоных, белых і жоўтых нітак. Па этнаграфічных даных добра вядома, што ў Беларусі для афарбоўкі тканін выкарыстоўвалі кару і пупышкі дрэў, палявыя кветкі, карані раслін, травы, ягады. Напрыклад, чорную фарбу маглі атрымліваць з «шарыкаў», якія восенню вырасталі на лісцях дуба, з адвару альхі, дуба ці рабіны, трылісніку, бруснічніку (у сумесі з крушынай, карой, дубовымі лісцямі і соллю), шышак елкі. Адварам лісцяў зверабою фарбавалі льняное палатно і сукно ў чырвоныя і пясочныя тоны. Жоўтую фарбу даваў адвар чыстацелу і пупышак таполяў. Для фарбавання палатна ў светла-жоўты колер выкарыстоўвалі шалупінне цыбулі. Ярка-зялёную фарбу атрымлівалі з медных апілак, залітых кіслым малаком, сінюю і блакітную — з кветак валошак. Адвар сухой кары дуба і бярозы даваў карычневы, лісцяў крапівы — зялёны, ягад ажыны — фіялетавы і малінавы колеры. Чырвоны колер атрымлівалі з іржавага жалеза. На Мазыршчыне чырвоную фарбу дабывалі з рачнога каменя, які раствараецца ў гарачай вадзе[7]. У тыя часы ва Усходняй Еўропе былі вядомы і такія прывазныя фарбы, як індыга, сандал, бразільскае дрэва[8].

Трэба меркаваць, што на тэрыторыі Беларусі ўжо тады была вядома і набойка. Знаходкі набіўных тканін наогул вядомы ў многіх мясцінах Усходняй Еўропы. Узор на набойцы звычайна рабіўся ў выглядзе васьміпялёсткавай разеткі ў крузе. Набіўная тэхніка заключалася ў тым, што на гатовую тканіну наносіўся ўзор фарбай пры дапамозе дошкі з выразаным малюнкам[9].

Шырока ўжываўся і лямец. Ачышчаную ад бруду, добра расчэсаную і распушаную шэрсць рассцілалі на палатне, змочвалі кіпенем, прыкрывалі палатном, мялі рукамі або накручвалі на качалку і качалі ў розных напрамках. На выраб тонкага лямцу ішла шэрсць маладых авечак, грубага — шэрсць дарослых авечак. З лямцу рабілі галаўныя ўборы, вусцілкі для абутку і, магчыма, валёнкі.

На тэрыторыю Беларусі паступалі імпартныя шаўковыя тканіны з Бліжняга і Сярэдняга Усходу, Міжземнамор'я, а таксама сукно з Францыі. Асабліва папулярнымі былі шаўковыя тканіны

чырвонага, вішнёвага, пурпурнага, фіялетавага, блакітнага, зялёнага і жоўтага колераў. Былі ўзорчатыя тканіны (мал. 2). Узор звычайна складаўся з розных разетак і крыжыкаў, якія ўваходзілі ў сетку ромбаў, кругоў і шматкутнічкаў. Сустракаюцца тканіны з лінейным узорам і малюнкамі (грыфы, ільвы, арлы)[10]. Адзенне з імпартных тканін шылі знаць і заможныя гараджане. Вяскоўцы толькі зрэдку маглі дазволіць сабе выкарыстаць шоўк на аблямоўку святочнага касцюма (каўнер, манжэты). Прыкладам шаўковых каўняроў, якія звычайна замянялі сабой маністы з пацерак, з'яўляюцца каўняры з курганоў на Быхаўшчыне і Рагачоўшчыне і асабліва з кургана каля в. Лісна Верхнядзвінскага раёна. Рэшткі візантыйскай тканіны з залатымі ніткамі знойдзены ў адным з курганоў каля в. Надаткі Мазырскага раёна Гомельскай вобласці, а ў кургане каля Саламарэчча паблізу Мінска была сярэбраная парча. Большасць жа шаўковых тканін выяўлена ў культурных пластах гарадоў. Так, у Гародні гэта кавалачкі карычневага шоўку з арнаментам, дзе асноўным элементам была фігура тыпу знака Рурыкавічаў, а таксама залацісты шоўк і парча з раслінным арнаментам[11]. Візантыйскія ўзорныя тканіны знойдзены ў Мінску і Давыд-Гарадку, ніткі ад парчы ёсць у Бярэсці і Мсціславе, шаўковы пояс — у Навагрудку і інш. У адзенні з залатой парчы пахаваны чалавек у саркафагу на Барысаглебаўскіх могілках у Тураве.

Тканіны часта ўпрыгожваліся вышыўкай. Сяляне і гараджане вышывалі фарбаванымі ніткамі. Узоры рабіліся ў выглядзе сімвалаў засеянага поля (квадрат ці ромб, падзелены на чатыры часткі з кропкай-семенем у цэнтры кожнай ячэйкі), трохкутнікаў, крыжыкаў, кольцаў, знакаў свастыкі, завіткоў, розных пляцёнак і інш. На Смаленшчыне кавалачак сінявата-зеленаватай тканіны быў вышыты ярка-аранжавай ніткай[12]. Добра захавалася вышыўка на фрагментах жаночай кашулі ў адным з курганоў каля в. Харлапава Смаленскай вобласці. Узор уяўляе сабой спалучэнні ромбікаў, чатырохкутнікаў і вуглкоў, якія рабілі складаныя крыжы і ромбы. Вышыўка зроблена ніткамі чырвонага і чорнага колераў. Падобныя ўзоры на адзенні вядомы ў гэтым раёне і ў наш час[13]. Шырока была распаўсюджана вышыўка бісерам, спіральнымі пранізкамі, у пэўным парадку нашываліся маленькія бронзавыя ці сярэбраныя бляшачкі. Напрыклад, у кургане каля в. Аўсянікі Чашніцкага раёна знойдзены галаўны вяночак, расшыты шклянымі пацеркамі. У Захарнічах пад Полацкам падол адзення быў упрыгожаны зялёнымі і фіялетавымі пацеркамі і бронзавымі спіральнымі пранізкамі. Бісерам было вышыта адзенне ў адным з жаночых пахаванняў каля в. Хадосавічы на Рагачоўшчыне. Каля в. Нісімкавічы Чачэрскага раёна ў жаночым пахаванні на грудзях касцяка знойдзена іголка з нанізанымі на яе бісернымі пацеркамі, абвітая ніт-

камі. Хутчэй за ўсё гэта пахаванне вышывальшчыцы. Каля в. Вензаўшчына Шчучынскага раёна выяўлены кавалачак скуры, вышыты белымі шклянымі пацеркамі. Ёсць звесткі аб знаходцы на Рагачоўшчыне фрагмента тканіны («шарак»), дзе ў чатыры рады захаваліся нашытыя бронзавыя бляшачкі. Сляды ад металічных нашывак на адзенні вядомы ў шэрагу іншых курганных пахаванняў.

Сярод знаці была распаўсюджана вышыўка залатымі і сярэбранымі ніткамі па шоўку. Асабліва ўпрыгожвалася кайма і паясы. Вядома, што ў Андрэеўскім манастыры ў Кіеве нават існавала школа, дзе дзяўчаты навучаліся вышываць золатам і серабром. Найбольш папулярнай была тэхніка вышыўкі «ў пракол», або «ў прыкрэп», калі металічная нітка накладвалася на тканіну і прышывалася да яе шаўковай ніткай. Арнамент рабіўся геаметрычны, раслінны і зааморфны[14]. На тэрыторыі Беларусі захавалася ўжо згаданая вышыўка на шаўковым каўняры каля в. Лісна Верхнядзвінскага раёна. Гэта стаячы каўнер шырынёй 3,5 см з візантыйскага шоўку. Контур узора быў вышыты чырвоным шоўкам, а ўзор — залатымі ніткамі «ў пракол». Асноўны ўзор складзены з птушак у крузе, якія чаргуюцца з прамакутнымі чатырохканцовымі крыжамі. Птушкі вышыты ў профіль. Падобны матыў з выявамі птушак сустракаецца ў архітэктуры, на ювелірных вырабах і на мініяцюрах рукапісаў XI—XII стст.[15]

Гаворачы аб тканінах, трэба сказаць і аб вязанні (пляценні). Наогул у Еўропе вязаныя вырабы з'явіліся яшчэ ў пачатку нашай эры. Шмат вязаных рэчаў (рукавіцы, шкарпэткі, панчохі) знойдзена ў Ноўгарадзе, Пскове, Рызе. На тэрыторыі Беларусі знаходкі вязаных рукавіц ёсць у Віцебску і Бярэсці[16], шкарпэтак — у Полацку, а ў культурным слоі Навагрудка захаваўся клубочак шарсцяных нітак.

## АСНОЎНЫЯ ВІДЫ АДЗЕННЯ

Галоўнымі часткамі адзення былі льняныя кашулі і паясное адзенне (панёва ў жанчын і порткі ў мужчын). Кашулі рабіліся ніжнія і верхнія і па пакрою былі ў асноўным тунікападобныя. Паколькі шырыня вытканай тканіны звычайна не перавышала 45—53 см, то прыходзілася кроіць адзенне з некалькіх кавалкаў. Клінападобныя ўстаўкі пашыралі кашулю на падоле, а рамбічныя ластавіцы ўшываліся пад пахамі. Па баках нярэдка рабіліся разрэзы. Рукавы былі доўгімі, а ў святочных жаночых кашулях збіраліся каля запясця бранзалетамі. Каўняры стаячыя (вышыня 3—6 см), у форме карэ, трапецыі. Сярод стаячых сустракаюцца шаўковыя вышываныя. Такія каўняры збоку зашпільваліся на гузікі. Некаторыя каўняры рабіліся на падкладцы са скуры, лубу

ці бярозы. У Панямонні на месцы шыі нябожчыцы знойдзены кавалачак скуры з нашытымі на яе бронзавымі спіральнымі пранізачкамі і паміж імі шкляным бісерам. Часцей за ўсё насілі кашулі, дзе разрэз быў пасярэдзіне грудзей. Каўнер завязваўся тасьмой або зашпільваўся гузікам ці фібулай (мал. 2). Сярод гузікаў даследчыкі вылучаюць тры тыпы: кляпікі, або кастылёвыя, пляската-выпуклыя і шарападобныя. Гузікі першых тыпаў выразаліся або выточваліся з дрэва ці косці, а гузікі трэцяга тыпу адліваліся ці штампаваліся з металаў[17]. Вядомы выпадкі знаходжання адзення з вялікай колькасцю гузікаў. Так, каля в. Ветачка Рагачоўскага раёна ў адным з курганоў знойдзены 34 бронзавыя гузікі. Часам замест гузікаў выкарыстоўваліся буйныя пацеркі, бразготкі, праселкі. Каўнер, краі кашулі і рукавоў упрыгожваліся вышыўкай, металічнымі пласцінáчкамі ці тасьмой. Таксама насілі і вязаныя карункі. У касцюме знаці былі распаўсюджаны накладныя каўняры (ажарэлкі), расшытыя жэмчугам. Як жаночыя, так і мужчынскія кашулі шыліся доўгімі. Калі жанчыны на кашулю надзявалі панёву або верхнюю сукенку, то мужчыны насілі кашулі навыпуск і абавязкова з поясам. Вядомы мужчынскія кашулі з падкладкай на грудзях і на спіне.

Панёва ў тыя часы, верагодней за ўсё, уяўляла сабой нясшыты кавалак тканіны, які завязвалі вакол пояса так, што краі разыходзіліся спераду, пакідаючы адкрытым падол кашулі. Часта панёвы рабіліся з тканін у клетку ці палоску. Невялікая шырыня тагачасных тканін дазваляе меркаваць, што панёвы маглі шыцца з трох, чатырох ці шасці полак. Трэба думаць, што насілі і панёвы з дзвюх плахт, якія трымаліся з дапамогай пояса, а летам у час палявых прац адзіным відам жаночага паяснога адзення быў завязаны ззаду фартух[18]. Нясшытае паяснае адзенне ў пачатку 2-га тысячагоддзя вядома ў Прыбалтыцы[19]. Аб існаванні ў разглядаемы час на тэрыторыі Беларусі фартухоў прамых даных не існуе, але па знаходках бронзавых спіральных пранізак, якія складаюць узор, яны выразна прасочваюцца ў пахаваннях на пагранічны з Літвой, у Літве і ў Карэліі. Хутчэй за ўсё нашы продкі тады ведалі і сарафаны, якія складаліся са спадніцы і кароткага ліфа на шлейках, што прышпільваліся фібуламі. Такія сарафаны добра вядомы ў ліваў, скандынаваў, іншых тагачасных народаў. Сярод знаці і багатых гараджан былі распаўсюджаны доўгія сукенкі, аб чым яскрава сведчаць мініяцюры Радзівілаўскага летапісу. Насілі сукенкі і вяскоўцы. Напрыклад, у 1876 г. Г. Х. Татур каля в. Сенніца паблізу Мінска ў кургане знайшоў не пашкоджаную шарсцяную сукенку цёмна-барвовага колеру, пакладзеную каля ног нябожчыцы. Захавалася сукенка дзякуючы таму, што была некалькі разоў абгорнута карой. На Барысаўшчыне каля в. Палееўка ў XIX ст. у ад-

ным з курганоў на грудзях жаночага шкілета пад каралямі з вялікіх бронзавых пацерак выяўлены 32 невялікія пласціначкі, якімі быў абшыты каўнер.

Мужчынскім паясным адзеннем з'яўляліся порткі. Па пахавальных помніках яны не прасочваюцца, але, мяркуючы па выявах, порткі шыліся нешырокімі. Яны кроіліся з прамых палотнішчаў і ў шаг ушывалася ластавіца. Пояс рабіўся шырокім і завязваўся вакол таліі[20]. Простыя людзі насілі льняныя суконныя порткі, заможныя паверх надзявалі шаўковыя. Пра даўжыню портак казаць цяжка, паколькі на выявах яны паказваюцца звычайна запраўленымі ў боты або закрытымі анучамі (абмоткамі), якія часта ўпрыгожваліся бронзавымі пранізкамі (мал. 6).

Верхнім адзеннем для жанчын і мужчын былі світы, наплечныя пакрывалы (вілайнэ), кажухі, шубы. Світы рабіліся шарсцянымі і зашпільваліся на гузікі — касцяныя, драўляныя ці металічныя або фібуламі. У адным з курганоў каля в. Перавоз Глыбоцкага раёна знойдзены чатыры бронзавыя з пазалотай гузікі. Наплечныя пакрывалы ўяўлялі сабой кавалак тканіны памерам 60—80×100—130 см, які звычайна зашпільваўся фібулай. У жанчын краі пакрывала ўпрыгожваліся бронзавымі спіральнымі пранізкамі ці трапецападобнымі падвескамі, вышываліся шарсцянымі ніткамі або бісерам. Мужчынскія світы і кажухі часта былі нераспашнымі[21]. Рэшткі світы знойдзены ў кургане каля в. Шо Глыбоцкага раёна, рэшткі ж кажухоў — у курганах каля в. Чаркасова на Аршаншчыне і каля Заслаўя пад Мінскам. Пісьмовыя крыніцы згадваюць аб шубах з меха мядзведзя, ваўка, лісіцы, бабра, вавёркі і інш. Больш заможныя людзі насілі плашчы, якія вядомы пад назвамі: корзна (княска-баярскі плашч, што насіўся з фібулай), прывалока (кароткі плашч з парчы), ватола (безрукаўны плашч, які зашпільваўся каля шыі і часта меў капюшон), луда (плашч з яркай, расшытай золатам парчы), мятль (плашч з вельмі дарагіх тканін), кіса (плашч князёў і баяр) і інш.

Важная роля ў касцюме адводзілася поясу. Яму звычайна прыпісвалася якасць садзейнічаць урадлівасці. Па павер'ях, пояс аберагаў ад хвароб, перагароджваў шлях нячыстай сіле. Паясы рабілі скураныя, плеценыя з нітак, тканыя, шытыя з тканін, з залататканай тасьмы. Шырыня паясоў была 2, 3, 4 см. Некаторыя паясы рабіліся на падкладцы з кары ці лубу. Большасць паясоў, якія захаваліся, зашпільвалася пры дапамозе металічных спражак (мал. 8). На мужчынскіх паясах звычайна насілі ліраподобныя спражкі або жалезныя прамакутныя, а на жаночых — падковападобныя спражкі (фібулы) са спіралепадобнымі канцамі. Сярод спражак сустракаюцца вельмі каштоўныя. Так, у кургане каля Навагрудка знойдзена спражка з накладным серабром, арнаментава-

ная рэльефнымі кропкамі. Мужчынскія скураныя паясы акрамя спражак мелі раздзяляльныя кольцы з металу або косці і ўпрыгожваліся бронзавымі заклёпкамі. Увагі заслугоўвае скураны пояс, знойдзены ў жаночым пахаванні каля в. Відагошч (пас. Камсамолец) пад Мінскам. Да пояса былі падвешаны чатыры шнуры з шарсцяных нітак, кожны з якіх заканчваўся бразготкай. Шнуры былі перахоплены частымі абручыкамі з бронзавай бляхі. Больш заможныя людзі насілі залататканыя паясы. Паясы з накладкамі вядомы ў курганах каля вёсак Рудня Полацкага, Замошша Талачынскага, Шо Глыбоцкага раёнаў, каля Заслаўя і ў іншых месцах. Багата ўпрыгожваліся паясы ў княжацка-баярскім асяроддзі. Сярэбраныя паясныя накладкі вядомы ў скарбах (Стражавічы Чашніцкага раёна, Полацк і інш.). Паясы князёў і баяр лічыліся сімваламі храбрасці і багацця і перадаваліся ў спадчыну. Прыкладам плеценага пояса можа служыць кавалак ад пояса з кургана каля Заслаўя. Гэтым поясам быў падпераэаны кажух на нябожчыку мужчыне. Пояс меў пляценне «ў касу». Насілі таксама і складанаплеценыя паясы, доказам чаго служыць касцяная вілачка для пляцення паясоў, знойдзеная ў адным з кургаиоў на Бабруйшчыне (мал. 9:9). Да паясоў на шнурках ці ланцужках падвешваліся амулеты — бразготкі, падвескі-конікі, ключыкі і інш. Амулеты насілі як жанчыны, так і мужчыны. У мужчын да паясоў яшчэ падвешваліся крэсівы і асялкі. Часцей за ўсё сустракаюцца бразготкі. Па павер'ях, яны лічыліся эмблемай бога Перуна і ахоўвалі людзей ад злых духаў. Напрыклад, у Заслаўі ў адным з пахаванняў уздоўж скуранога пояса падвешана 16 бразготак. На адным са шнуркоў разам з бразготкай вісела сіняя шкляная пацерка. Насіліся на паясах і скураныя сумачкі, асабліва ў гарадах.

## 2. ГАЛАЎНЫЯ ЎБОРЫ

### ЖАНОЧЫЯ ГАЛАЎНЫЯ ЎБОРЫ

Жаночыя галаўныя ўборы з'яўляліся важнейшай часткай касцюма. Яны строга падраздзяляліся на дзявочыя ўборы і ўборы замужніх жанчын. Таксама адрозніваліся ўборы вясковых жанчын, гараджанак і знаці. Увогуле сярод жаночых галаўных убораў вылучаюцца тры асноўныя віды: вяночкі (венчык, павязка, вайнага, карона), чапцы (шапачка, кіка, валаснік) і ручніковыя ўборы (намітка, павой). Ручніковыя ўборы насілі паверх асноўнага галаўнога ўбору.

Да венчыкаў і чапцоў звычайна прышываліся ці прымацоўваліся скроневыя кольцы. Часам скроневыя кольцы ўпляталі ў валасы, пазней яны сталі выконваць ролю завушніц. Скроневыя кольцы лічыліся асноўным этнічным індыкатарам, і пачыналі іх

насіць дзяўчынкі з пэўнага ўзросту. Таму ў пахаваннях маленькіх дзяўчатак скроневыя кольцы пакладзены звычайна ў якасці падарунка. Напрыклад, каля в. Ветачка Рагачоўскага раёна пры дзіцячым пахаванні XI ст. каля галавы ляжала скроневае кольца, на якое нанізалі яшчэ сем кольцаў. Усе кольцы былі сярэбраныя, абкручаныя спіраллю. Іх дыяметр 2 см. Крывічанкі насілі бранзалетападобныя скроневыя кольцы, радзімічанкі — сяміпрамянёвыя, дрыгавічанкі — дротавыя пярсцёнкападобныя з нанізанымі на іх зярнёнымі пацеркамі і інш. (мал. 10). Яшчэ ў канцы XIX ст. даследчыкі прыйшлі да высновы, што вобласці распаўсюджвання скроневых кольцаў супадаюць з тэрыторыямі ўсходнеславянскіх плямёнаў згодна «Аповесці мінулых часоў»[1]. Фарміраванне тыпаў кольцаў прыходзіцца ў асноўным на канец XI ст., калі пачаў узрастаць сепаратызм асобных зямель. Тыповымі гарадскімі скроневымі кольцамі лічыліся колты, у знаці — расны.

**Вяночкі** лічыліся дзявочымі галаўнымі ўборамі і звычайна рабіліся з бяросты ці лубу, абцягваліся тканінай або скурай. Вышыня вяночкаў дасягала 13 см. У курганах сустракаюцца знаходкі толькі са скуры ці тканіны (льняной, шаўковай, парчовай). У якасці вяночкаў выкарыстоўвалася таксама візантыйская тасьма. Такія галаўныя ўборы вышываліся ніткамі і бісерам, а ў некаторых раёнах на іх нашываліся металічныя пранізкі, бляшачкі. Каля в. Аўсянікі Чашніцкага раёна знойдзены вяночак з драўлянага абадка, абшытага скурай і тканінай і ўпрыгожанага шклянымі пацеркамі, нанізанымі на драцінкі. Вяночак дапаўняўся дротавымі скроневымі кольцамі невялікага памеру[2]. Каля в. Пуцілкавічы Ушацкага раёна знойдзены вяночак з шаўковай тканіны, на якую нашыты пазалочаныя бляшкі. Венчык з 12 пазалочанымі бляшкамі быў у навагрудскім пахаванні, а венчык з шыццём сярэбранай каніцеллю — у кургане каля в. Гарадзілаўка ля Навагрудка. Каля в. Навінкі Талачынскага раёна на чэрапе знойдзена бронзавая бляшка з рэшткамі эмалі. Каля в. Палееўка на Барысаўшчыне пазалочаныя бляшкі былі прымацаваны да парчовай стужкі. Акрамя таго, на поўначы Беларусі часта сустракаюцца вайнагі — вяночкі з бронзавых спіральных пранізак у тры — шэсць радоў, часам у спалучэнні з бронзавымі пласціначкамі. Спіралькі нанізваліся на лыкавыя жгуты або скураныя раменьчыкі. На патыліцы пры такіх вяночках былі бронзавыя ланцужкі, якія заканчваліся званочкамі або трапецападобнымі падвескамі. Гэта тыповыя балцкія галаўныя ўборы.

Таксама насіліся бронзавыя і сярэбраныя пласцінчатыя вяночкі. Яны мелі выгляд стужкі шырынёй 0,5—2 см і таўшчынёй 0,1 см. На канцах рабіліся адтуліны для шнурка або канцы загіналіся трубачкай, скрозь якія прапускаўся шнурок для злучэння канцоў. Вядомы і венчыкі з ліставога серабра, нашытага на тканіну,

і вяночкі, зробленыя на драўляным каркасе. Бронзавы абруч на скуранай падкладцы знойдзены каля в. Відагошч на Лагойшчыне, а каля Лунінца Брэсцкай вобласці бронзавы абруч быў упрыгожаны зігзагападобным арнаментам. Сярэбраныя абручы ў выглядзе тоўстай пляцёнкі вядомы ў курганах каля Навагрудка. Такія абручы даходзілі да скроняў, далей жа вакол галавы прывязваліся з дапамогай шнурка.

**Чапцы** рабіліся з тканін, скуры, лямцу, а іх аснова — з лубу ці бяросты. Прыкладам чапца можа служыць добра захаваны ўбор з кургана каля в. Юдзічы на Пасожжы. На чэрапе знойдзены луб, пакрыты ў некаторых месцах тонкай палатнянай тканінай. На лбе тканіна ўпрыгожана дробнымі шклянымі пацерачкамі жоўтага колеру і прасвідраванымі вішнёвымі костачкамі, якія нанізаны на нітку і прымацаваны да тканіны. На правай скроні да чапца прышыты тры сяміпрамянёвыя і чатыры пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы. Каля левай скроні захаваліся кольцы разам са скуранай стужкай. Стужка складзена ўдвая і чатыры кольцы пратнуты ў яе адно над адным, а ніжняе кольца падвешана ў месцы згібу стужак[3]. У Чаркасоўскім курганным могільніку на Аршаншчыне на чэрапе выяўлены рэшткі шарсцяной тканіны разам з бранзалетападобнымі скроневымі кольцамі па тры з кожнага боку. Падобнае пахаванне раскапана таксама на Быхаўшчыне. Скураны чапец з нашытымі драцянымі кольцамі знойдзены каля в. Каменка на Рагачоўшчыне[4]. У Нісімкавічах Чачэрскага раёна па ўсяму чэрапу захавалася кара ад каркаса галаўнога ўбору. З правага боку тут знойдзена сем пярсцёнкападобных скроневых кольцаў, з левага — чатыры. У Заслаўі вядома знаходка трох бронзавых скроневых кольцаў з рэшткамі валасоў, кары і скуры ад галаўнога ўбору. Кавалкі скуры ад галаўнога ўбору зафіксаваны каля вёсак Узноснае Талачынскага, Дзям’янкі Добрушскага раёнаў і ў іншых мясцінах. Уяўленне пра старажытныя галаўныя ўборы даюць вынікі раскопак на суседніх тэрыторыях (Смаленскай і Цвярской абласцей)[5].

У Беларусі былі шырока распаўсюджаны шапачкі, упрыгожаныя па краі бронзавымі спіральнымі пранізкамі ў адзін — чатыры рады або металічнымі пласцінкамі. Звычайна такія ўпрыгожванні нашываліся толькі спераду і часта нават у два рады. Шапачкі дапаўнялі скроневыя кольцы. Абшыванне шапачак пранізкамі і бляшачкамі з’яўляецца балцкай традыцыяй, і таму такія знаходкі часцей прыходзяцца на месцы балцкіх асяродкаў[6]. Шмат такіх убораў знойдзена на тэрыторыі Воранаўскага і Шчучынскага раёнаў на Гродзеншчыне і ў вярхоўях Віліі. Бронзавыя бляшачкі з цвічкамі знойдзены ў Заслаўі, а з дарэвалюцыйных раскопак на тэрыторыі Віцебшчыны вядома скураная шапачка з набітымі на яе дробнымі сярэбранымі чашападобнымі бляшачкамі, да якіх у розных

месцах былі прымацаваны нанізаныя на раменьчыкі спіральныя пранізкі[7]. Каля в. Янушкавічы Лагойскага раёна ў кургане знойдзены часткі галаўнога ўбору са скуры, вышытай металічнымі ніткамі. Вышыўку складалі паралельныя і хвалістыя лініі. На тэрыторыі крывічоў былі распаўсюджаны шапачкі, упрыгожаныя алавянымі бляшачкамі, якія нагадвалі луску[8]. Такія галаўныя ўборы вядомы каля вёсак Селішча Ушацкага і Перавоз Глыбоцкага раёнаў. Можна меркаваць, што ў тыя часы насілі шапачкі ці чапцы, вязаныя з ільняных нітак, якія добра вядомы па этнаграфічных даных, а таксама галаўныя ўборы накшталт рагатых кічак[9]. Рагатыя галаўныя ўборы на Магілёўшчыне згадваюцца яшчэ ў другой палове XVII ст.[10]

Багатыя гараджанкі насілі чапцы з тонкіх шаўковых тканін. Такі чапец, абшыты вузкай тасьмой, знойдзены ў пахаванні знатнай жанчыны ў Давыд-Гарадку. Часта па нізу мяккага галаўнога ўбору ўмацоўваліся ачэллі, якія нагадвалі сённяшнія галаўныя абручы. Дужкі ад двух такіх ачэлляў знойдзены ў Навагрудку. Яны маюць выгляд літага металічнага паўкольца — адно 18 мм, другое 22 мм. Унутраная паверхня плоская, знешняя аформлена ў выглядзе гладкіх паўшар'яў, аддзеленых адзін ад другога паяскамі, што імітуюць зернь. Канцы завершаны вушкамі з адтулінамі. Адна дужка з бракам, што сведчыць пра яе выраб на месцы. Звычайна каля 20 такіх дужак надзяваліся на два выгнутыя валікі, абшытыя тканінай[11].

**Ручніковыя ўборы** ў халоднае надвор'е насілі паверх венчыкаў і шапачак. Вясковыя жанчыны насілі наміткі, пра існаванне якіх яскрава сведчаць шпількі, знойдзеныя ў пахаваннях каля скроняў. Адзін канец наміткі ахопліваў падбародак, другі спускаўся па спіне ніжэй за паясніцу. Па этнаграфічных даных вядома шмат іншых спосабаў павязвання намітак[12]. Наміткі насілі ў асноўным на тэрыторыі Беларусі і Усходняй Прыбалтыкі. Слова «намітка» распаўсюджана толькі сярод насельніцтва балцкага арэала[13].

У летапісах ручніковыя галаўныя ўборы знатных жанчын называюць павоямі, ці ўбрусамі. Даўжыня іх каля 2 м, шырыня 0,4—0,5 м. Павоі, як і паясы, мелі вялікую каштоўнасць. Павоі добра вядомы па выявах на фрэсках. Часцей за ўсё яны былі белага або чырвонага колеру, часта па краі ўпрыгожваліся вышыўкай, абшываліся шклянымі пацеркамі або металічнымі бляшачкамі. Павоі рабіліся з розных тканін, у прыватнасці з шаўковых паласатых. Звычайна гэтыя ўборы абвівалі вакол галавы і канцы спускаліся на грудзі. Знаходкі ручніковых убораў прасочваюцца і па курганах. Так, упрыгожаны пацеркамі ўбор знойдзены ў курганах каля в. Старая Рудня Жлобінскага раёна. Каля Барысава быў убор з белага тонкага палатна. На Бабруйшчыне і Ту-

раўшчыне вядомы галаўныя ўборы з тонкага льну, якія па краях абшыты бляшачкамі. Пакрывала з лёгкай тканіны знойдзена ў пахаванні дзяўчыны ў Мінску. Насілі ў тыя часы хусткі, якія завязваліся пад падбародкам. Такія ўборы добра прасочаны на суседніх тэрыторыях (Смаленшчына). Убор накшталт хусткі быў у кургане каля Віцебска. Там на галаве знойдзены рэшткі дзвюх тканін — тоўстай карычневага і тонкай чорнага колераў[14]. Мініяцюры Радзівілаўскага летапісу падаюць і турбанападобныя галаўныя ўборы, якія добра былі вядомы ў тыя часы ў Заходняй Еўропе.

## МУЖЧЫНСКІЯ ГАЛАЎНЫЯ ЎБОРЫ

Звестак пра мужчынскія галаўныя ўборы менш, чым пра жаночыя. Уяўленні таго часу патрабавалі ад мастакоў на фрэсках і мініяцюрах паказваць мужчын большай часткай без галаўных убораў, асабліва калі на малюнку быў князь, які абавязкова паказваўся ў шапцы. Форма княжацкіх шапак была паўсферычная або конусападобная. Верх рабіўся з яркай тканіны. Шапкі абшываліся мехавой апушкай. У галаўных уборах-клабуках маляваліся царкоўныя асобы, скамарохі — у вастраверхіх каўпаках, якія звісалі назад. Уяўленне пра мужчынскія галаўныя ўборы вяскоўцаў і простых гараджан можна атрымаць з археалагічных крыніц. У Бярэсці і Полацку вядомы знаходкі лямцавых шапак. Берасцейская шапка мае канічны верх і загнутыя краі, якія прылягаюць да верху. Па форме яна нагадвае больш познія шапкі-магеркі[15]. Шырока бытавалі ў тыя часы розныя па пакрoі мехавыя шапкі[16]. Выраблялі шапкі са скуры, лямцу і шэрсці, упрыгожвалі бронзавымі спіральнымі пранізкамі, бляшачкамі або маленькімі фібуламі. Добра захаваўся лямцавы мужчынскі галаўны ўбор, упрыгожаны бляшкамі, знойдзены каля в. Харлапава на Смаленшчыне [17]. Пра мужчынскія галаўныя ўборы можна меркаваць таксама па рэчах дробнай пластыкі — гліняных цацках і касцяных шахматных фігурках. Мужчыны насілі акрамя згаданых вышэй і ўборы ў выглядзе паўсферычных шапак (гліняная фігурка з Ваўкавыска, шахматная фігурка ферзь з Лукомля), берэтаў (ваўкавыская шахматная фігурка — барабаншчык), шапак з плоскім верхам і невялікімі брылямі (шахматны кароль з Бярэсця) і шапак з навушнікамі (шахматны кароль са Слуцка).

**Прычоскі.** Маюцца некаторыя звесткі аб прычосках тых часоў. Наогул у сярэднявеччы на тэрыторыі Еўропы дзяўчаты насілі валасы распушчанымі або заплеценымі ў адну касу ці дзве. Часам касу ўкладалі вакол галавы. Пры раскопках на сумежных тэрыторыях прасочаны і дзявочыя прычоскі, калі на скронях запляталі тоненькія касічкі, у якія прадзявалі кольцы, а на патыліцы валасы расчэсвалі на прамы прабор і, уплятаючы верхнія касічкі,

плялі дзве касы. Часта ў курганах каля скроняў знаходзяць валасы, спушчаныя над вухам у выглядзе пятлі. У курганах зафіксаваны і прычоскі, калі валасы збіраліся ў пучок на патыліцы[18]. У пахаванні дзяўчыны ў Мінску захаваліся дзве касы, укладзеныя вакол галавы. Добра прасочаны прычоскі па пахаваннях у Літве. Там жанчыны збіралі валасы ў вузел, які сколвалі жалезнай шпількай з бронзавай ці сярэбранай галоўкай, дзяўчаты валасы заплyталі ў касу, якую зацягвалі вялікай бурштынавай пацеркай [19].

Вядома, што на тэрыторыі Заходняй Еўропы да сярэдзіны XII ст. мужчыны брылі падбародак і шчокі, зрэдку пакідаючы вусы, а валасы коратка стрыглі. З сярэдзіны XII ст. пачалі насіць доўгія валасы і адпускаць бараду[20]. Меркаваць пра мужчынскія прычоскі на тэрыторыі Беларусі можна па фрэсцы дома баярына ў Навагрудку, па шахматных фігурках і гліняных цацках. Згодна з гэтымі выявамі, мужчыны ў тыя часы насілі злёгку падоўжаныя валасы, якія прыкрывалі вушы. Барада і вусы сустракаліся зрэдку.

## 3. УПРЫГОЖВАННІ І РЭЧЫ ТУАЛЕТУ

Яшчэ ў каменным веку людзі ўпрыгожвалі сябе каралямі з зубоў жывёл ці ракушак, нанізаных на сухажыллі. Ужо тады ведалі і ўпрыгожванні з бурштыну. Пазней з'явіліся бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы з медзі, бронзы, жалеза і серабра, а таксама шкляныя пацеркі. Пацеркі і падвескі насілі не толькі на шыі, але нашывалі на адзенне і абутак. Асноўная маса ўпрыгожванняў рабілася мясцовымі майстрамі, аб чым сведчаць ліцейныя формачкі. Высокага майстэрства дасягнула ювелірнае рамяство ў часы Полацкага і Тураўскага княстваў. Ювелірныя майстэрні існавалі ў Полацку, Навагрудку, Мінску і іншых гарадах. Знатныя людзі насілі імпартныя ўпрыгожванні.

Упрыгожванні пачатку 2-га тысячагоддзя падраздзяляюцца на скроневыя, нагрудныя і ўпрыгожванні рук.

**Скроневыя ўпрыгожванні.** Да іх адносяцца кольцы, якія з'яўляліся ўпрыгожваннямі вясковых жанчын і часткі гараджанак. Больш заможныя гараджанкі насілі колты, а знатныя — расны. Як адзначалася, скроневыя кольцы, што прымацоўваліся да галаўнога ўбору або ўпляталіся ў валасы, неслі асноўную этнавызначальную функцыю. Крывічанкам былі ўласцівыя дротавыя бранзалетападобныя кольцы, радзімічанкам — сяміпрамянёвыя, дрыгавічанкам — пярсцёнкападобныя з ажурнымі ці зярнёнымі пацеркамі. Былі на тэрыторыі Беларусі і кольцы іншых этнасаў, а таксама скроневыя кольцы індывідуальных форм. Так, каля в. Чаркасова Аршанскага раёна на пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы было нанізана па адной сердалікавай пацерцы. На Лепельшчыне

знойдзена скроневае кольца ў выглядзе стралы (мал. 12). Ёсць скроневыя кольцы з нанізанымі шклянымі пацеркамі, а на Брэстчыне ў адным з пахаванняў знойдзена кольца з рыбінымі пазванкамі. Вядомыя выпадкі, калі замест скроневых кольцаў насілі лунніцы ці манеты з адтулінамі. Такія ўпрыгожванні падвешваліся на раменьчыках, як і сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы.

Сустракаюцца скроневыя кольцы ў выглядзе круглай арнаментаванай бляхі з дугападобнай іголкай для падвешвання. Пачынаючы з XIII ст. на змену скроневым кольцам прыйшлі завушніцы ў выглядзе дротавага пытальніка з нанізанымі спіралькамі і пацеркамі (мал. 12). Насілі ад аднаго да 12 скроневых кольцаў. Іх колькасць залежала ад заможнасці жанчыны.

**Нагрудныя ўпрыгожванні.** Да нагрудных упрыгожванняў адносяцца падвескі, якія насіліся на шнурках, ланцужках або ў складзе караляў разам з пацеркамі, а таксама шыйныя грыўні, фібулы, шпількі. Ланцужкі найбольш характэрныя для Падзвіння, дзе касцюм быў блізкі да балцкага. Ланцужкамі злучаліся фібулы, на іх насіліся падвескі і ножыкі каля пояса або каля пляча. Даўжыня ланцужкоў дасягала 1 м, але былі і маленькія ланцужкі ў тры — пяць звенняў. У кургане каля в. Укля на Браслаўшчыне ланцужок злева на грудзях быў прымацаваны да адзення з дапамогай падковападобнай фібулы і спускаўся ўніз на 20 см. На абодвух канцах знаходзілася па дзве бразготкі. Падобнае ўпрыгожванне вядома каля Мінска. Толькі тут на адным канцы віселі тры бразготкі, на другім — чатырохкутная бляшачка.

Самымі шматлікімі нагруднымі ўпрыгожваннямі з'яўляюцца падвескі-амулеты. Яны рабіліся з розных металаў, косці, шыферу (пірафеліту), бурштыну. На тэрыторыі Беларусі вядома больш за 200 відаў падвесак. Падвескі насілі як у вёсках, так і ў гарадах, але мода на іх больш доўга трымалася ў вёсцы. Даволі распаўсюджанымі падвескамі былі конікі і лунніцы (мал. 13). Асабліва шмат лунніц знойдзена ў Пасожжы, дзе іх колькасць у адных каралях (у спалучэнні з пацеркамі) часта дасягае 13. Лічыцца, што лунніцы былі сімвалам багіні Селены, якая апекавала дзяўчат, і таму гэтыя ўпрыгожванні насілі менавіта дзяўчаты. Падвескі-конікі найбольш сустракаюцца ў Падняпроўі і Падзвінні. Выява каня звязвалася з сімвалам дабра і шчасця. Вядомы выпадкі знаходжання ў адным пахаванні па дзве падвескі. Ёсць і конікі з дзвюма галоўкамі. Для Беларусі характэрны таксама падвескі ў выглядзе качачак. Сярод іх часта сустракаюцца касцяныя, асабліва на Пасожжы, дзе знойдзена нават падвеска-качачка з конскай галавой і грывай. Гэты амулет сімвалізуе старажытны культ сонца (удзень па небу сонца вязуць коні, ноччу па падземнаму акіяну яго цягнуць птушкі, якія плывуць па вадзе). Сустракаюцца падвескі ў вы-

глядзе ключыкаў, рыбы, лыжачкі, сякеркі, якара (мал. 13) і інш. Даволі распаўсюджанымі былі манетападобныя падвескі (рашотчатыя, косарашотчатыя, з уключаным крыжам, з выявай галавы быка), сярод якіх ёсць і сапраўдныя манеты ці іх імітацыі з прыпаянымі для падвешвання вушкамі. Напрыклад, каля в. Вотня паблізу Быхава ў склад караляў уваходзілі дырхем і чатыры сярэбранікі часоў князя Уладзіміра. Бракгэаты вядомы ў Батвінаўцы і Нісімкавічах Чачэрскага і Гадзілавічах Рагачоўскага раёнаў. Падвескі з дырхемаў і англа-саксонскіх манет знойдзены ў Смальянах на Аршаншчыне і Багрынаве Талачынскага раёна[1].

Рэдкімі з'яўляюцца падвескі-змеевікі. Такія ўпрыгожванні лічыліся атрыбутамі сацыяльнай эліты. Змеевікі ўяўлялі сабой вялікія манетападобныя падвескі. На адным іх баку была кананічная хрысціянская выява (Хрыста, Маці Боскай ці святых), на другім — змеепадобная кампазіцыя (выява чалавечай галавы або паўфігуры ці поўнай фігуры, абкружанай змеямі). Змеевікі знойдзены ў Ваўкавыску, Чачэрску, Бярэсці, на Случчыне. На вонкавым баку ваўкавыскай знаходкі рэльефная выява архангела Міхаіла, які стаіць на змеі. У руках архангела мерка і зярцала. На адвароце — змяіная кампазіцыя вакол чалавечай галавы. Змяіныя тулавы заканчваліся вушастымі звярынымі ці драконавымі галовамі (мал. 13). Вакол ёсць надпіс, які дрэнна чытаецца[2]. На чачэрскім змеевіку на вонкавым баку Маці Боская, на адваротным — змеі[3], у Бярэсці — іконка-змеявік, на вонкавым баку — выява Багародзіцы Знаменне, на адваротным — клубок з 12 змей, што адыходзяць ад галавы, змешчанай у цэнтры[4].

Дзве антрапаморфныя падвескі знойдзены ў Магілёўскім Падняпроўі (Лудчыцы, Калодзезная)[5]. Каля Мінска вядома знаходка касцяной падвескі ў выглядзе калчана, які быў на бронзавым ланцужку. Самымі распаўсюджанымі ў тыя часы з'яўляліся падвескі-бразготкі. Яны рабіліся з бронзы або білону. Бразготкі ўваходзілі ў склад караляў разам з пацеркамі, прымацоўваліся да паясоў, галаўных убораў, нашываліся на адзенне, абутак, выкарыстоўваліся замест гузікаў. Такія падвескі лічыліся сімвалам Перуна. Іх насілі для аховы ад злых духаў. Часта сустракаюцца трапецападобныя падвескі. Яны таксама прымацоўваліся да галаўных убораў, насіліся на шыйных грыўнях і ланцужках, нашываліся на адзенне. У якасці падвесак сустракаюцца ракушкі каўры (Масковічы, Полацк, Гародня, Ратайчыцы і інш.), якія паходзяць з Індыйскага акіяна. У пачатку 2-га тысячагоддзя насілі яшчэ і традыцыйныя амулеты з зубоў і костак жывёл. Звычайна гэта былі клыкі дзіка, ваўка, костачкі-астрагалы бабра, зайца, лісіцы.

Сярод падвесак шмат крыжыкаў з металу, шыферу, бурштыну. Крыжыкі ў тыя часы яшчэ не былі сімваламі хрысціянства. Але

ўжо крыжы-энкалпіёны (складні) звязаны з хрысціянскай рэлігіяй. Іх звычайна знаходзяць у гарадах і феадальных сядзібах (Мінск, Друцк, Магілёў, Мсціслаў, Бярэсце, Гародня, Віцебск, Маскавічы і інш.). Памеры энкалпіёнаў былі ад 3 да 10 см. У сяродкрыжжы змяшчалася выява Хрыста ці Маці Боскай. Каштоўнымі вырабамі лічыліся абразкі. Яны рабіліся з бронзы, медзі, свінцу, косці, каменя, шкла. Такія рэчы ў асноўным насілі гараджане. Напрыклад, у Навагрудку знойдзены абразок з чырвона-карычневага шкла з выявай сюжэта Божага нараджэння. У верхняй частцы грэчаскі надпіс. Знаходка датуецца не пазней XIII ст. Вядомы дзве аналогіі — адна ў музеі хрысціянскіх старажытнасцей у Ватыкане, другая — у Оксфардскім музеі. Абразок са Слаўгарада мае выявы Георгія Перамаганосца, на рэчыцкім абразку паказаны воін на кані і са шчытом. Адзін з ваўкавыскіх абразкоў зроблены ў тэхніцы выемчатай эмалі і паказвае Іаана Хрысціцеля, другі — пазалочаны — мае выяву святога Дзмітрыя. Знойдзеныя на тэрыторыі старажытнага Мінска каменныя іконкі вылучаюцца асаблівым стылем, што дазваляе даследчыкам меркаваць аб іх мясцовай вытворчасці. У гэтых абразках праяўляюцца рысы народнага мастацтва. На мінскіх абразках ёсць выявы Хрыста Эмануіла, які благаслаўляе Міколу і Стэфана, выява Багамаці Дэісуснай і апостала Пятра, іконка з выявай святога Міколы. У Полацку знойдзены касцяны абразок з выявамі Канстанціна, Алены і інш. Каменныя іконкі абрамляліся аправамі з золата, серабра, якія ўпрыгожваліся сканню, гравіроўкай, чэрню, каштоўнымі і паўкаштоўнымі камянямі, каляровым шклом[6].

Шырока былі распаўсюджаны пацеркі (мал. 14). Больш за ўсё іх знойдзена ў Падняпроўі, Пасожжы, Падзвінні. Часцей пацеркі сустракаюцца ў курганных могільніках па берагах рэк. Наогул жа на поўдні Беларусі пацеркі былі ў модзе яшчэ ў раннім жалезным веку. Тут ёсць пацеркі, прывезеныя з Прычарнамор'я і нават з Егіпта[7]. У VI—IX стст. у Прыпяцкім Палессі пацеркі выйшлі з моды, але ў пачатку 2-га тысячагоддзя мода на іх аднавілася[8]. Мода на пацеркі залежала ад іх паступлення з таго ці іншага месца вытворчасці. У пачатку 2-га тысячагоддзя налічвалася ўжо некалькі соцень відаў пацерак. Найбольш распаўсюджаны быў рублены бісер сіняга, жоўтага і зялёнага шкла. Каралі з бісеру былі аднакаляровыя і шматкаляровыя. Напрыклад, на Полаччыне частыя каралі з бісеру жоўтага і сіняга колераў, каля в. Ворань Лепельскага раёна знойдзены нізкі толькі зялёнага бісеру. Пацеркі аднаго віду, акрамя бісерных, насіліся вельмі рэдка. Звычайна маністы складаліся з розных пацерак — зонных, лімонак, вочкападобных, рабрыстых, золаташкляных, сярэбранашкляных, а таксама сердалікавыя, крышталёвыя, бурштынавыя. Выключэнне складаюць маністы толькі з адных бурштынавых пацерак на Мсціслаўшчыне і ка-

ралі з сердалікавых пацерак у адным з дрыгавіцкіх курганоў. Зафіксавана некалькі знаходак маністаў з адных золаташкляных пацерак. Сярод шкляных пацерак частымі знаходкамі з'яўляюцца сінія пацеркі розных форм — кольцападобныя, бітрапецоідныя, рабрыстыя, падоўжаныя, прамакутныя, якія часта ўпрыгожваліся белымі ромбікамі (беларамбічныя), і інш. Сярод шкляных пацерак самымі каштоўнымі лічыліся зялёныя. Цікавыя зялёныя маленечкія пацеркі з жоўтымі вочкамі знойдзены ў кургане каля в. Перавоз Глыбоцкага раёна. Сярод шкляных пацерак большасць складаюць знаходкі кіеўскага паходжання, аднак ёсць і візантыйскія. Каменныя пацеркі паступалі з Усходу, дзе залежы сердаліку і крышталю меліся ў Індыі, на Аравійскім паўвостраве, у Малой Азіі, на Каўказе. Па форме гэтыя пацеркі шматгранныя, шарападобныя, біпірамідальныя. Асноўны паток каменных пацерак прыходзіцца на XI ст. У XII ст. ён скарачаецца, але дзякуючы моцнасці матэрыялу яны насіліся і ў XIII ст.[9] Акрамя згаданых пацерак сустракаюцца пацеркі з яшмы, жэмчугу, аметысту, каралаў, бірузы, агату. Ёсць гліняныя пацеркі, пацеркі, зробленыя з рыбіных пазванкоў, костачак слівы. Для дрыгавічанак характэрны бронзавыя і сярэбраныя, упрыгожаныя зерню, і ажурныя металічныя пацеркі. Каменная ліцейная формачка для адліўкі зярнёных пацерак знойдзена ў Слуцку.

У кампаноўцы караляў прытрымліваліся прынцыпу сіметрыі. Так, у двух пахаваннях каля в. Лясная Мёрскага раёна было па дзве кольцападобныя бурштынавыя пацеркі, з двух бакоў паралельна ішлі вочкападобныя, лімонкі і сінія шкляныя пацеркі. Яны былі нанізаны на льняны шнурок, звіты з 10 нітачак. Наогул пацеркі нанізваліся таксама на шаўковыя шнуркі, конскі волас, дрот. Звычайна насілася адна нізка пацерак, але сустракаюцца дзве і тры. Па некалькі нізак пацерак знойдзена ў курганах каля Заслаўя. У адным з радзіміцкіх пахаванняў знойдзена сем нізак пацерак, сярод якіх былі пацеркі з крышталю і аметысту. У некаторых пахаваннях налічваецца да 400—600 пацерак. Цікавыя па форме маністы знойдзены ў чарневіцкіх курганах на Глыбоччыне. Адзін з іх спераду меў дзевяць радоў жоўтых бісерных пацерак, якія ззаду сыходзіліся ў адну лінію. Другія маністы складаліся з двайнога рада жоўтых падоўжаных пацерак, а пасярэдзіне была двайная карычневая пацерка з белымі, жоўтымі і зялёнымі пражылкамі. З абодвух бакоў каралі заканчваліся дробнымі блакітнымі пацеркамі. Трэція маністы зроблены ў дзевяць радоў з дробных гліняных круглых пацерак. У адным з радоў, бліжэй да канца, была трохкутная пацерка з рэльефнымі ўпрыгожваннямі жоўтага колеру. Такія пацеркі былі і на канцах караляў[10]. У каралях пацеркі часта чаргаваліся з бразготкамі, на Пасожжы з падвескамі-

лунніцамі, манетападобнымі, крыжападобнымі або пятлістымі падвескамі. Пацеркі каштавалі дорага, пра што сведчаць іх знаходкі ў скарбах. Так, шмат золаташкляных пацерак уваходзіла ў склад гараўлянскага скарбу (Глыбоцкі раён). Акрамя ўпрыгожванняў пацеркі выкарыстоўваліся замест гузікаў, у тым ліку і ў мужчынскім адзенні. Пацеркамі вышывалася адзенне, галаўныя ўборы, абутак. Яны нанізваліся на скроневыя кольцы і завушніцы, на тасьму ў паясах і наплечных пакрывалах. Пацеркі, якія паступалі з Усходу, акрамя таго, выконвалі ролю грошай.

Да нагрудных упрыгожванняў адносяцца шыйныя грыўні, фібулы і булаўкі. Шыйныя грыўні звычайна рабіліся ў выглядзе дротавых ці пласцінчатых абручоў з бронзы, білону, серабра. Канцы ў грыўняў былі петлепадобнымі, чатырохграннымі, конусападобнымі, завужанымі, пласцінчатымі і інш. (мал. 15). Усе вядомыя на Беларусі грыўні па паходжанню з'яўляюцца балцкімі ўпрыгожваннямі і найбольш характэрныя менавіта для вясковага насельніцтва. На землях крывічоў да пласцінчатых грыўняў прымацоўваліся трапецападобныя падвескі ці бразготкі (в. Богіна Браслаўскага раёна, в. Стары Пагост Мёрскага раёна, Барысаўшчына і інш.). У Рудні пад Полацкам знойдзена ўплошчаная грыўня з насечкамі і заходзячымі канцамі. У Чарневічах Глыбоцкага раёна ёсць грыўні з жалезнага дроту з накручанай на яго бронзавай тасьмой. Вядомы грыўні і ў скарбах. Сярод іх знойдзены грыўні, па форме балцкія і падобныя па форме да грыўняў кіеўскай знаці. У археалагічнай літаратуры згадваюцца скураныя шыйныя грыўні, да якіх пры дапамозе шнуркоў прымацоўваліся розныя ўпрыгожванні.

Пачынаючы з жалезнага веку на Беларусі насілі зашпількі для адзення — фібулы, якія па паходжанню таксама з'яўляюцца балцкімі. Яны выраблялісяз бронзы, білону, серабра, зрэдку з жалеза. У пачатку 2-га тысячагоддзя найбольш распаўсюджанымі былі падковападобныя фібулы са спіралепадобнымі канцамі (мал. 16). Асабліва шмат такіх фібул сустракаецца ў міжрэччы Заходняй Дзвіны, Віліі і Бярэзіны. Акрамя таго, ёсць знаходкі падковападобных фібул з зааморфнымі канцамі, круглыя фібулы з выпукла-ўвагнутым сячэннем, раўнаплечыя фібулы і шкарлупападобныя. У кургане каля в. Нісімкавічы Чачэрскага раёна знойдзена падковападобная арнаментаваная фібула з зааморфнымі канцамі і язычком у выглядзе мужчынскай галавы з доўгай барадой.

Булавак на Беларусі знойдзена няшмат. Сярод іх булаўкі-стрыжні з кольцападобнай галоўкай. У в. Навінкі Талачынскага раёна знойдзена булаўка з выявай птушынай галоўкі і з рухомым кольцам.

**Упрыгожванні рук.** Да ўпрыгожванняў рук адносяцца пярсцёнкі і бранзалеты. Пярсцёнкі насілі жанчыны і мужчыны на правай і на левай руцэ. Звычайна знаходзілі ад аднаго да дзесяці

пярсцёнкаў. Яны выраблялiся з медзi, бронзы, серабра, шкла, волава, бiлону, бурштыну, золата. Больш за ўсё былi распаўсюджаны дротавыя, якiя часта выраблялiся ў два цi тры абароты, а таксама пласцiнчатыя пярсцёнкi з цiснёным арнаментам i шырокасярэдзiнныя пярсцёнкi (мал. 17).

Бранзалеты вядомы з часоў каменнага веку. Спачатку яны рабiлiся з бiўня маманта, пазней — з розных металаў i сплаваў. У пачатку 2-га тысячагоддзя асаблiвым попытам карысталiся бронзавыя, у гарадах шкляныя бранзалеты. Есць сярэбраныя бранзалеты. У Мiнску знойдзены вiты залаты бранзалет з зааморфнымi канцамi. У крывiчоў бранзалеты насiлi таксама мужчыны. Звычайна надзявалi па аднаму, два, тры бранзалеты, але вядомыя выпадкi знаходжання ў курганах чатырох бранзалетаў — па два на кожнай руцэ. Зафiксаваны таксама знаходкi бранзалетаў на назе. Бранзалеты клалiся ў якасцi падарункаў каля ног нябожчыка. На тэрыторыi Беларусi бытавалi амаль усе вiды бранзалетаў, вядомыя тагачаснай Усходняй Еўропе, а таксама зааморфныя бранзалеты, балцкiя па паходжанню. Вылучаюцца дротавыя, вiтыя, кручаныя, пляценыя, гладкiя (сегментападобныя ў сячэннi) з зааморфнымi галоўкамi, пласцiнчатыя арнаментаваныя, створкавыя (бранзалеты-наручы) i iнш. (мал. 18). У вяскоўцаў у модзе былi вiтыя i зааморфныя бранзалеты, у гарадах пласцiнчатыя, зрэдку пласцiнчатыя насiлi ў вёсцы. Арнамент на гарадскiх пласцiнчатых бранзалетах быў больш складаным i разнастайным, чым на вясковых. Увогуле ж узор на пласцiнчатых бранзалетах складаўся з розных зiгзагаў, ромбаў, кружочкаў з кропкай у цэнтры, пункцiрных лiнiй. Да XIII ст. у асноўным бытаваў геаметрычны арнамент, затым з'явiлiся элементы раслiннага арнаменту. Кожны элемент арнаменту быў звязаны з язычнiцкай сiмволiкай i лiчыўся абярэгам (мал. 19).

Шкляныя бранзалеты былi тыпова гарадскiмi ўпрыгожваннямi па ўсёй Усходняй Еўропе, аднак зрэдку сустракаюцца i на сельскiх паселiшчах. Напрыклад, на паселiшчы каля в. Чэрнiчы Жыткавiцкага раёна знойдзена пяць фрагментаў шкляных бранзалетаў, у кургане на Быхаўшчыне — чатыры бранзалеты. Для гарадоў характэрныя бранзалеты-наручы. Знаходкi такiх бранзалетаў вядомы на Мсцiслаўшчыне i Быхаўшчыне.

Па прыкладу сумежных тэрыторый можна меркаваць, што ў тыя часы на землях Беларусi насiлi бранзалеты са скуры, тканiн i вязаныя з нiтак. Па этнаграфiчных даных вядома, што на рукi надзявалi шарсцяную або льняную нiтку, якая выконвала ролю абярэга ад хваробы, няшчасных выпадкаў i нават смерцi. Па павер'ях, iльняная нiтка дапамагала ад пухлiн, чырвоная шарсцяная — ад лiхаманкi. З-за дрэннай захаванасцi матэрыялаў цяжка сказаць, наколькi шырока маглi быць распаўсюджаны такiя бранзалеты.

Як адзначалася, асноўная частка ўпрыгожванняў была этнічным індыкатарам. Такія ўпрыгожванні, як шкляныя бранзалеты і пацеркі, не неслі этнічнай інфармацыі і іх наяўнасць поўнасцю залежала ад гандлёвых шляхоў[11].

У тыя часы значная ўвага ўдзялялася не толькі адзенню і ўпрыгожванням, але і знешняму выгляду. З рэчаў туалету можна згадаць драўляныя і касцяныя грабяні. Яны былі розныя па форме і памерах — аднабаковыя і двухбаковыя, з густымі і рэдкімі зубцамі і інш. (мал. 20). Грабеньчыкі часта ўпрыгожваліся арнаментам. У Бярэсці і Слуцку вядомы знаходкі брытваў (мал. 20:5). Мала звестак сабрана аб тагачасных люстэрках, але, несумненна, яны былі. Яшчэ ў часы ранняга жалезнага веку на поўдні Беларусі добра вядомы люстэркі скіфскага тыпу. У пачатку 2-га тысячагоддзя люстэркі маглі быць са слюды і таму поўнасцю не захаваліся. На сумежных землях палян, севяран, вяцічаў у курганах знойдзены фігурныя касцяныя ручкі ад люстэркаў. Вяціцкае люстэрка ўяўляла сабой дыск дыяметрам 6,3 см і таўшчынёй 0,8 см. Да рэчаў туалету адносяцца таксама розныя нажнічкі, пінцэты, а таксама маленькія драўляныя каробачкі (пушачкі).

## 4. СКУРАНЫЯ ДЭТАЛІ КАСЦЮМА І АБУТАК

У час раскопак часта знаходзяць вырабы са скуры. Як адзначалася, з аўчын шылі кажухі. Асабліва шматлікія скураныя вырабы знаходзяць у культурных пластах гарадоў. Гэта абутак, паясы, сумачкі або кашалькі, рукавіцы, футаралы нажоў. Гэтыя рэчы з'яўляюцца прадукцыяй гарадскіх рамеснікаў. Паясы звычайна знаходзяць у фрагментах, але некаторыя з іх паддаюцца рэканструкцыі, у выніку чаго відаць, што яны былі шырынёй 2—5 см. Цэлыя скураныя паясы захаваліся ў Віцебску, Гародні, Бярэсці, у пахаваннях Панямоння. Многія паясы былі са спражкамі, раздзяляльнымі кольцамі і ўпрыгожваліся металічнымі накладкамі. У Полацку, Мінску, Бярэсці, Віцебску, Слуцку знойдзены скураныя рукавіцы. Яны сшыты з двух кавалкаў скуры і састаўнога пальца (мал. 21). Кашалькі па форме былі прамакутныя, акруглыя, сцяжныя (мал. 21). Першыя рабіліся з аднаго кавалка скуры, які перагінаўся на дзве неаднолькавыя часткі і большая адначасна служыла крышкай. Кашалькі акруглай формы складаліся з двух кавалкаў скуры і мелі ўверсе адтуліны для прадзявання раменьчыкаў. Сцяжныя кашалькі нагадвалі кісет. Яны шыліся з мяккай скуры, упрыгожваліся аплікацыяй або вышыўкай. У Бярэсці знойдзены кашалькі, арнаментаваныя вузкімі скуранымі палоскамі. Скураныя кашалькі на паясах сустракаюцца ў сельскіх пахаваннях. Так, у трох пахаваннях (двух жаночых і адным

дзіцячым) каля в. Навінкі Талачынскага раёна кашалькі былі ў выглядзе кісета і ў іх ляжалі амулеты. У адным з кашалькоў знаходзіліся тры бронзавыя бразготкі, злучаныя эсападобнай падвескай, шыфернае праселка, бронзавы спіральны пярсцёнак і лясны арэх[1]. Кашалькі кісетнага тыпу знойдзены каля вёсак Батвінаўка і Каласы Рагачоўскага раёна, Вензаўшчына Шчучынскага раёна. Знойдзены каля в. Вароніна Быхаўскага раёна кашалёк быў з жалезнымі абойміцамі, а ў Юдзічах Рагачоўскага раёна кашалёк упрыгожвалі касцяныя разныя фігуркі коней. У Каласах у кашальку ляжалі каралі з шасці бронзавых шыракарогіх лунніц у спалучэнні з бісернымі пацеркамі і бронзавы пласцінчаты пярсцёнак з несапраўднаярнёнай кветкавай разеткай. На некаторых кашальках былі зашпілечкі, у ліку якіх металічныя і шкляныя пацеркі. Сярод скураных знаходак на Панямонні і Пасожжы пераважаюць футаралы ад нажыкаў-амулетаў. Такія нажыкі насілі на поясе і ў якасці нагрудных упрыгожванняў, якія падвешваліся на ланцужках (мал. 21). Футаралы вышываліся шарсцянымі ці металічнымі ніткамі. У гарадах знойдзена шмат ножнаў ад звычайных бытавых нажоў. У Бярэсці вядомы чахол ад грабеньчыка. Хутчэй за ўсё ад пояса была скураная палоска даўжынёй 40 см, шырынёй 4 см, упрыгожаная праразным раслінным арнаментам. Такая рэч магла быць аплікацыяй (мал. 21). Скураны пояс, упрыгожаны вышыўкай, знойдзены ў Гародні (мал. 22:9).

Самыя шматлікія скураныя вырабы — гэта абутак: поршні, чаравікі, боты, сандалі і інш. (мал. 21; мал. 22:2, 3, 5—8). Увогуле на тэрыторыі Усходняй Еўропы рэшткі абутку ў гарадах належаць да найбольш масавых знаходак. У курганах на тэрыторыі Беларусі скуранога абутку амаль няма. Выключэнне складае знаходка часткі скураной падэшвы каля ног шкілета ў адным з курганоў каля в. Кернаўка на тэрыторыі былога Вілейскага павета і падкоўка ад бота ў кургане каля Навагрудка. На сумежных тэрыторыях абутак сустракаецца ў курганах. Адсутнасць скуранога абутку ў курганах Беларусі трэба тлумачыць не тым, што яго не было ў вёсках, а звычаем, вядомым па этнаграфічных даных, згодна з якім нябожчыку надзявалі лапці нават тады, калі пры жыцці ён іх не насіў, або хавалі ў шкарпэтках ці абмотках[2].

Добра вывучаны абутак гарадоў. Майстэрні шаўцоў раскапаны ў Полацку, Мінску, Бярэсці. Калодкі-правілы знойдзены ў Віцебску, Гародні, Давыд-Гарадку. Таксама частыя знаходкі іголак, шылаў, нажоў для раскрою. Матэрыялы раскопак даюць узоры абутку стандартных пакрояў, што сведчыць аб прымяненні выкраек.

У Полацку вылучаюцца поршні, чаравікі, туфлі, паўбацінкі і боты. Гэты абутак юхтовы, вываратны, на скураной падэшве, сшыты наваскаванымі ніткамі. Акрамя гэтых пяці відаў абутку ў По-

лацку на Верхнім замку знойдзена сандаля. Яна ўяўляла сабой падэшву, якая прымацоўвалася да нагі з дапамогай раменьчыкаў. Па контуру падэшвы было шмат прарэзаў, у якія прапускаліся кароткія раменьчыкі, а ў адтуліны на канцах раменьчыкаў працягваўся другі раменьчык, які сцягваўся вакол нагі. Згодна з іканапісным матэрыялам XII—XIII стст., такія сандалі насіла духавенства. Сярод полацкага абутку шмат жаночых і дзіцячых чаравікаў, зробленых з якаснага юхту, пафарбаванага ў чорны колер. Арнаментаванага абутку ў Полацку вельмі мала[3]. У Мінску больш за ўсё знойдзена чаравікаў і поршняў. Поршні былі з аднаго кавалка скуры, краі яго загіналіся і атрымліваўся насок, заднікі і борцікі. Былі поршні з двух кавалкаў скуры. У некаторых поршнях у насавой частцы рабіліся выразы, у якія ўпляталіся скураныя раменьчыкі. Чаравікі складаліся з дзвюх частак — суцэльнакроенага верху і падэшвы. Верх уключаў у сябе адначасна галоўку, высокія борцікі і заднік. Пад борцікам рабіліся прарэзы, праз якія праходзіў скураны шнурок. Туфлі былі падобныя на чаравікі, але мелі нізкія борцікі. Сярод туфель сустракаюцца ажурныя. Паўбоцікі і боты часта нагадвалі сучасныя. Кароткія боцікі мелі вышыню халяў не больш за 20 см. Мінскі абутак багата арнаментаваўся[4]. У Бярэсці вылучаюць поршні, мяккія туфлі і боты. Берасцейскія поршні падобныя на поршні ў Полацку і Мінску, але, акрамя гэтага, ёсць шмат ажурных поршняў, дзе на наску ў выніку прарэзаў і сцягвання іх шнуркамі атрымліваліся ажурныя ўзоры. Туфлі адрозніваліся ад поршняў больш складаным узорам. Бакавыя сценкі туфель маюць вертыкальныя надрэзы, праз якія прапускаліся раменьчыкі. Сустракаюцца туфлі з падкладкай з тканіны. Большая частка берасцейскіх туфель мае вышыўку. Боты ў Бярэсці, як і ў іншых гарадах, былі падобныя на сучасныя. У колькасных адносінах у Бярэсці больш насілі туфлі і боты, чым поршні[5].

У адрозненне ад Полацка, Мінска, Бярэсця абутак у Гародні быў вельмі просты. Гэта ў асноўным туфлі і поршні[6]. Віцебскі абутак падраздзяляюць на поршні, чаравікі і боты. Чаравікі звычайна рабіліся з вышыўкай[7]. Скураны абутак знойдзены таксама ў Пінску, Мсціславе, Слуцку, Слоніме і іншых гарадах. У Мсціславе цікавасць уяўляе халява мужчынскага бота, расшытая ўзорамі. Скураны абутак захаваўся ў багатых пахаваннях у Мінску, Давыд-Гарадку і Мсціславе. Так, у Мінску на нагах нябожчыцы былі мяккія скураныя чаравікі з адваротамі і прадзержкай, упрыгожаныя вышыўкай з эсападобным узорам[8].

Як адзначалася, абутак часта вышывалі. Звычайна ўзорам упрыгожвалі насок, аднак сустракаюцца і такія вырабы, дзе вышыты кожны квадратны сантыметр. Узор уключаў розныя элементы — пляцёнкі, завіткі, кругі, прошвы, трохкутнікі, ромбы. Вылучаюцца тры

групы арнаменту — геаметрычны, стылізаваны раслінны і спалучэнне геаметрычнага з раслінным. Найбольш распаўсюджанымі былі матывы з выявамі крына (кветкі, якая распускаецца), сэрцападобнай пальметкі і прошвы. Абутак з выявамі крына звычайна насіўся жанчынамі. Гэта тлумачыцца тым, што крын быў сімвалам жыцця і ўрадлівасці. Для ўзораў выкарыстоўваліся рознай таўшчыні каляровыя шарсцяныя і шаўковыя ніткі. Раслінны арнамент вышываўся контурнай лініяй, геаметрычныя дэталі поўнасцю пакрываліся ніткамі[9]. Акрамя вышыўкі абутак упрыгожваўся ціспеннем, нашыўкамі, спражкамі, бляшкамі, бразготкамі, спіральнымі пранізкамі, пацеркамі.

Цікавасць уяўляе таксама вытворчасць абутку. Пярвічная апрацоўка скуры заключалася ў выдаленні з унутранай паверхні скуры мяздры, а са знешняй — валасоў. Для гэтага скуру прамывалі ў вадзе, затым зразалі мяздру і вытрымлівалі пэўны час у попельніках ці растворы вапны. Пасля скуру зноў прамывалі і нажом зразалі валасы з вонкавай паверхні. Для паліроўкі карысталіся гладкімі камянямі. Для размякчэння і выдалення попелу і вапны рабілі бучэнне і квашанне. Шырока выкарыстоўвалася дубленне. Ачышчаную скуру апускалі разам з расліннымі дубіцелямі ў чаны, залівалі вадой і вытрымлівалі некалькі месяцаў. У якасці дубіцеля магла быць кара дуба, вярбы, елкі, бярозы, альхі. Пасля дублення скуры ўнутраную паверхню скаблілі, каб выраўняць яе таўшчыню. Для прыдання эластычнасці яе жыравалі і цягнулі. Асноўнай сыравінай для скуранной вытворчасці былі скуры буйной рагатай жывёлы. Усе знойдзеныя кавалкі скуры мелі буравата-чырвонае адценне. Такі колер маглі атрымліваць з дапамогай кары вярбы, цёмнакарычневы — кары елкі і бярозы, жоўты і карычневы — кары альхі. Чорны колер рабіўся шляхам дабаўлення да кары ржавага жалеза. Дзве майстэрні для апрацоўкі скуры выяўлены ў Полацку. Адна была ў слоі XII ст., другая — XIII ст. Тут знойдзена шмат поўсці, перамешанай з вапнай і абрэзкамі скуры. Абрэзкі полацкай скуры былі чорнага і чырвонага колераў. Спектральным аналізам пацверджана ўжыванне жалеза пры афарбоўцы юхту. Ёсць фрагменты, прамочаныя дзёгцем. У слоі пачатку XII ст. знойдзена частка бочкі з рэшткамі бярозавага дзёгцю. Пісьмовыя крыніцы паведамляюць пра розныя віды скуранога тавару (юхт, ялавіца, саф'ян, казліна), розныя віды скуранога абутку[10].

Працэс пашыву абутку быў наступным. Важнай аперацыяй лічыўся раскрой скуры. Старажытныя майстры карысталіся выкрайкамі. Самай складанай была выкрайка верху. Арнаментацыя рабілася на загатоўцы і складалася з двух этапаў — нанясення адтулін і непасрэдна вышыўкі. Пасля гэтага майстар пераходзіў да пашыву. Калі ўжо часткі былі сшыты, абутак выварочвалі і працягвалі шнуркі[11].

Акрамя скуранога абутку насілі таксама лапці. У «Аповесці мінулых часоў» пад 985 г. аб вясковым насельніцтве Усходняй Еўропы гаворыцца як аб лапатніках. Лапці звычайна мелі выгляд шырокіх туфель з доўгімі аборамі, якія абмотваліся вакол нагі паверхануч. Для пляцення лапцей выкарыстоўваліся бяроста і лыка. Лепшым лічылася лыка ад ліпы, вяза і вярбы. Загатоўка лыка вялася вясной. Кара вымочвалася і высушвалася пад прэсам. Трубкі сабранай кары звязваліся пучкамі і вытрымліваліся некаторы час у хаце. Затым размочваліся, здымаўся верхні слой і луб наразаўся стужкамі шырынёй 1 — 1,5 см. Для вырабу адной пары лапцей трэба было загубіць тры-чатыры маладыя ліпкі. Сярэдні тэрмін ноські ліпавых лапцей з патоўшчанай падэшвай складаў месяц. Лёгкія лапці з вязавага лыка рэдкага пляцення ці бярозавыя лапці вытрымлівалі не больш аднаго тыдня. У розных раёнах існавалі розныя варыянты пляцення і фасонаў лапцей. Самымі распаўсюджанымі з'яўляліся прамое і касое пляценні[12]. Трэба меркаваць, што, як і на сумежных землях, насілі лапці, плеценыя з вяровак.

## 5. СЯЛЯНСКІ КАСЦЮМ І ЯГО РЭГІЯНАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

Асноўнай крыніцай для вывучэння сялянскага касцюма з'яўляюцца вынікі раскопак курганоў (мал. 3, 4). Як адзначалася, самым важным этнавызначальным элементам касцюма былі жаночыя галаўныя ўборы, у прыватнасці скроневыя кольцы. Полацкія крывічанкі насілі бранзалетападобныя кольцы, дрыгавічанкі — пярсцёнкападобныя з трыма напускнымі пацеркамі з зерні, радзімічанкі — сяміпрамянёвыя і інш. Вынікі картаграфавання бранзалетападобных скроневых кольцаў паказваюць тэрыторыю, якую займалі полацкія крывічы. Крывіцка-дрыгавіцкая мяжа праходзіла па лініі Заслаўе — Барысаў — Шклоў, затым па Дняпры — да Рагачова. На ўсходзе полацкія крывічы суседзілі са смаленскімі крывічамі, на захадзе — з латгаламі і літоўцамі. Самым заходнім паселішчам, дзе знойдзены бранзалетападобныя скроневыя кольцы, з'яўляецца Браслаў[1]. У крывічоў існавалі як цераспалосныя, так і змешаныя паселішчы. Бліжэй да балцкага тыпу быў касцюм жыхароў паселішчаў каля сучасных вёсак Навінкі, Латыголь Талачынскага раёна, Наўры Мядзельскага раёна, у ваколіцах Полацка (Рудня, Дзмітраўшчына), Дзісны (Казлоўцы), у іншых мясцінах. Так, у Навінках большасць упрыгожванняў аналагічныя ўпрыгожванням латгалаў і селаў. Гэта вяночкі з бронзавых спіральных пранізачак, галаўныя ўборы, упрыгожаныя бляшкамі, ракушкі каўры, трапецападобныя падвескі, спіральныя пярсцёнкі, шыйныя грыўні і інш. У мужчынскіх пахаваннях сустракаюцца бранзалеты[2]. Вар-

та адзначыць, што менавіта ў раёне гэтых вёсак асяродак балцкага насельніцтва — латышска-літоўскага — фіксуецца і ў XIV—XVI стст.[3] У Наўрах на Мядзельшчыне таксама жаночыя галаўныя ўборы з металічнымі бляшкамі, асабліва характэрныя для Літвы. Прыналежнасцю мужчынскага касцюма ў Наўрах былі падкowападобныя фібулы з патоўшчанымі арнаментаванымі канцамі. Такія фібулы лічацца тыпова заходнелітоўскімі ўпрыгожваннямі[4]. Яскравыя балцкія элементы касцюма (галаўныя бляшкі і вяночкі са спіральных пранізак) сустракаюцца таксама каля вёсак Пуцілкавічы на Ушаччыне, Жукавец Бярэзінскага, Перавоз Глыбоцкага, Ваўча Докшыцкага, Укля Браслаўскага, Дымава Шклоўскага, Палееўка Барысаўскага раёнаў і ў іншых мясцінах. Прычым у Уклі да вайнагі былі прымацаваны пярсцёнкападобныя скроневыя, у Дымаве — бранзалетападобныя скроневыя кольцы. Скроневыя кольцы знойдзены і на галаўным уборы з парчовай стужкай і сярэбранымі пазалочанымі бляшкамі каля Палееўкі. Аднак блізка да Навінак у курганнай групе паблізу в. Драздова Талачынскага раёна касцюм па тыпу быў бліжэй да славянскага. Тут выяўлена шмат разнастайных пацерак і звычайных дротавых кольцаў рознай велічыні. Акрамя шыракараспаўсюджаных падкowападобных фібул са спіралепадобнымі канцамі балцкіх рэчаў няма[5]. Аналагічная сітуацыя і на Мядзельшчыне. Бліжэйшы ад Наўраў сінхронны могільнік каля в. Парэчча амаль не мае балцкіх рысаў, затое ў складзе караляў прысутнічаюць зярнёныя дрыгавіцкія пацеркі[6].

У большасці курганных могільнікаў касцюм у рознай ступені мае балцкія і славянскія рысы. Увогуле характэрнымі рысамі крывічанскага касцюма ў жанчын з'яўляюцца зааморфныя бранзалеты, маністы, у якіх шкляныя пацеркі чаргаваліся з металічнымі грушападобнымі бразготкамі, шматлікасць бранзалетаў і пярсцёнкаў, вітыя шыйныя грыўні з петлепадобнымі канцамі, нашэнне ножыкаў на поясе ў якасці амулетаў. У крывічанак часта сустракаюцца вайнагі і галаўныя ўборы, упрыгожаныя бляшачкамі. Упрыгожванні знешне нагадваюць балцкія, але зроблены на месцы і адрозніваюцца ад уласна балцкіх у дэталях. Напрыклад, зааморфныя бранзалеты на тэрыторыі Беларусі маюць сегментападобнае сячэнне, такія ж бранзалеты ў Прыбалтыцы ў сячэнні трохкутныя і больш масіўныя[7].

Для мужчынскага касцюма таксама характэрная блізкасць да балцкага касцюма, што праяўляецца ў шматлікасці падкowападобных фібул, паясных кольцаў, ліրападобных спражак, пярсцёнкаў, нашэнні бранзалетаў і абшыванні адзення і галаўных убораў спіральнымі пранізкамі.

Этнавызначальнай прыкметай дрыгавічоў акрамя скроневых кольцаў з зярнёнымі пацеркамі былі каралі з такіх жа пацерак.

На падставе картаграфавання зярнёных пацерак даследчыкі вызначаюць дрыгавіцкую тэрыторыю наступным чынам.

Паўднёвай граніцай была Прыпяць, усходняя праходзіла па парэччу Дняпра, паўднёва-заходняя — па водападзелу Друці і Бярэзіны, паўночная — па лініі Барысаў — Заслаўе, паўночна-заходняя — па вярхоўях Нёмана, заходняй граніцай было Выганаўскае балота[8]. Курганы дрыгавічоў, як і крывічоў, унутры свайго арэала адрозніваліся па набору ўпрыгожванняў. Найбольш дрыгавіцкіх пацерак сустрэта ў раёне Бабруйска, Слуцка, Турава. Адным з месцаў вырабу зярнёных пацерак быў Слуцк, пра што сведчыць знойдзеная там ліцейная формачка для адліўкі такіх упрыгожванняў[9]. Асабліва характэрныя дрыгавіцкія камплекты ўпрыгожванняў знойдзены на Тураўшчыне. Яшчэ ў канцы XIX ст. У. З. Завітневіч раскапаў тут 163 курганы ў 16 могільніках. Багатымі аказаліся Ванюжыцкія і Камаровіцкія курганы на тэрыторыі сучаснага Петрыкаўскага раёна. Тут знойдзена шмат зярнёных пацерак, некаторыя з іх па памерах дасягаюць велічыні галубінага яйка. У каралях зярнёныя пацеркі чаргаваліся са шклянымі. Напрыклад, у адных з караляў былі тры шыферныя пацеркі, пяць сердалікавых, адзінаццаць золаташкляных, сем бронзавых зярнёных, у другім — сем вялікіх зярнёных пацерак чаргаваліся з шасцю золаташклянымі і інш.[10]

На паўзмежжы з крывічамі і радзімічамі часта сустракаюцца ўпрыгожванні балцкага тыпу — вітыя шыйныя грыўні, зааморфныя бранзалеты, спіральныя пранізачкі, ланцужкі, бразготкі, бляшкі. Цікава, што ў пагранічных дрыгавіцка-крывіцкіх і дрыгавіцка-радзіміцкіх абласцях курганы з зярнёнымі пацеркамі складаюць нават асобныя групы. У гэтых мясцінах па набору ўпрыгожванняў выяўляюцца гібрыдныя балта-славянскія комплексы. Напрыклад, каля в. Чэрнікаўшчына паблізу Койданава зааморфныя бранзалеты былі ў камплекце з шыйнай грыўняй, дрыгавіцкімі скроневымі кольцамі, зярнёнай пацеркай у складзе караляў і бразготкай. Шмат дрыгавіцкіх пацерак было ў камплекце з зааморфнымі бранзалетамі каля в. Мілкавічы на Салігоршчыне. Тут жа каля Мілкавіч знойдзены скарб, у склад якога ўваходзілі пяць сярэбраных шыйных грыўняў з конусападобнымі канцамі і бранзалетамі. Аналогіі грыўням вядомы ў асноўным ва Усходняй Латвіі[11].

Бабруйшчына хоць і была адносна «чыстай» дрыгавіцкай тэрыторыяй, але і тут у касцюме сустракаюцца балцкія элементы. Так, у адным з пахаванняў на грудзях і каля галавы выяўлены сляды меднага вокісу ад нашывак на адзенні, а ў курганах каля Новага Быхава знойдзены бразготкі і ножыкі ў скураных вышываных футаралах[12].

Па матэрыялах касцюма пацвярджаецца дыферэнцыяцыя тэрыторыі дрыгавічоў на дзве часткі — Паўночнае Палессе і парэч-

ча Прыпяці. Як вядома, у парэччы Прыпяці славяне з'явіліся ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя, а больш на поўнач — значна пазней, у канцы 1-га тысячагоддзя. Дрыгавічы прымалі ўдзел у асваенні Верхняга Панямоння, Брэсцкага Пабужжа і Падляшша. Але гэтыя тэрыторыі нельга лічыць дрыгавіцкімі таму, што дрыгавічы не былі тут адзіным этнасам. Акрамя дрыгавічоў на гэтых землях жылі валыняне, мазаўшане, балты. Па матэрыялах курганных могільнікаў Навагрудчыны прасочваюцца дзве хвалі перасялення валынян — у другой палове X ст. і ў XII ст.[13] Курганны могільнік каля в. Падрось паблізу Ваўкавыска мае мазавецка-дрыгавіцкі характар[14]. Хаця на Пабужжы і Панямонні сустракаюцца дрыгавіцкія пацеркі, але ўвогуле касцюм меў іншае аблічча, чым на менавіта дрыгавіцкіх землях. У Пабужжы скроневыя кольцы з зярнёнымі пацеркамі сустракаюцца часцей, чым у Панямонні. Як паказваюць апошнія даследаванні, асноўным насельніцтвам Брэсцкага Пабужжа былі валыняне. Тут таксама жылі дрыгавічы, заходнія славяне і славянізаваныя яцвягі[15]. Пахавальныя помнікі яцвягаў вядомы і на Панямонні (вёскі Ясудава пад Гродна, Суляцічы каля Навагрудка і інш.). Для гэтых пахаванняў характэрны пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з эсападобнымі ці спіральнымі завіткамі або з трыма полымі металічнымі пацеркамі, а таксама галаўныя ўборы, упрыгожаныя бляшкамі[16].

Асабліва шмат балцкіх рэчаў знаходзяць у так званых каменных магілах. Каменныя магілы распаўсюджаны ад вярхоўяў Віліі (вёскі Ваўча Докшыцкага раёна, Камена Вілейскага раёна) да возера Бяздоннага на Гродзеншчыне[17]. Найбольш характэрнымі ўпрыгожваннямі тут былі галаўныя ўборы з бляшкамі рознай формы, абрамлёнымі дробнымі шклянымі пацеркамі, рамбічныя падвескі, бронзавыя і сярэбраныя ключыкі, шматпацеркавыя скроневыя кольцы, нажы ў скураных футаралах, якія падвешваліся да пояса, падкowападобныя фібулы са стылізаванымі галоўкамі ці са спіралепадобнымі канцамі, бляшкі ад паясных набораў, трапецападобныя падвескі, спіральныя бронзавыя пранізкі. Каралі складаліся са шкляных пацерак, якія чаргаваліся з бразготкамі або ракавінамі каўры. Яскравымі прыкладамі касцюмаў — носьбітаў культуры каменных магіл — з'яўляюцца касцюмы з Вензаўшчыны. Так, у адным з мужчынскіх пахаванняў на поясе захаваўся скураны мяшэчак са шнуркамі, на канцах якога былі нанізаны шкляныя пацеркі. Побач з мяшэчкам быў падвешаны ножык. У адным з багатых жаночых пахаванняў знойдзена скроневае кольца з трыма полымі металічнымі зярнёнымі пацеркамі і скроневае кольца з эсападобным завітком. На нябожчыцы была сукенка з шарсцяной тканіны, пафарбаванай у цёмна-чырвоныя і зялёныя палосы, з вышытым залатымі ніткамі каўняром на скураной падкладцы. На грудзях знойдзены блакітна-зялёныя і жоўтыя пацеркі, паміж імі

былі ромбападобныя падвескі з кропкавым арнаментам. На правай руцэ быў арнаментаваны бранзалет з сярэбранай бляхі шырынёй 21 мм з закругленымі канцамі і адзін плецены пярсцёнак, на левай — сярэбраны і бронзавы бранзалеты і сярэбраны і бронзавы пярсцёнкі. Да плеценага з грубых шарсцяных нітак пояса падвешаны нож у скураным вышываным бронзавымі ніткамі футарале[18].

У вярхоўях Віліі і на правабярэжжы Нёмана ўздоўж сучаснай граніцы з Літвой знаходзяцца курганы ўсходнелітоўскага насельніцтва. Касцюм на гэтых землях характарызуецца шыйнымі грыўнямі, манжэтападобнымі бранзалетамі, падкавападобнымі фібуламі з эмаллю, ажурнымі падвескамі, бразготкамі, спіральнымі пранізкамі, званочкамі і інш. Напрыклад, на тэрыторыі Пастаўскага раёна (вёскі Лынтупы, Вайшкуны) знойдзены шыйныя грыўні з седлападобнымі і плоскімі заходзячымі канцамі, вітыя грыўні з конусападобнымі канцамі, арбалетныя і падкавападобныя фібулы, спіральнымі пранізкі, ракавіны каўры. Даследчыкі звязваюць гэтыя курганы з некалькімі аб'яднаннямі літоўскіх плямён[19].

Этнічнай прыкметай радзімічаў лічацца сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы. Па выніках іх картаграфавання вызначаны наступныя межы радзіміцкага этнасу: басейн ніжняга і сярэдняга Сажа, міжрэчча Сажа і Дняпра. Радзіміцкія паселішчы на захад ад Дняпра невядомы. На паўднёвым усходзе радзімічы суседзілі з севяранамі[20]. У арэале радзімічаў даследчыкі вылучаюць восем лакальных груп[21]. Акрамя сяміпрамянёвых скроневых кольцаў тыпова радзіміцкімі лічацца зоркападобныя і колападобныя спражкі (фібулы) (мал. 16), металічныя пятлістыя (мал. 13) і біэліпсоідныя падвескі, касцяныя падвескі-качачкі і падвескі-конікі, вітыя грыўні з разеткамі на канцах, звычай нашэння ножыкаў на поясе і ля пляча. Ножыкі часта былі ў скураных футаралах (мал. 3). Сустракаюцца таксама спіральныя пранізкі і зааморфныя бранзалеты. Большасць радзіміцкіх пахаванняў спалучала ў сабе балцкія і славянскія ўпрыгожванні. Прасочана, што ў радзіміцкіх пахаваннях з балцкімі элементамі нажы сустракаюцца значна часцей, чым у іншых пахаваннях. Напрыклад, у адным з курганоў былі каралі з 12 пятлістых падвесак, шыйная грыўня з кручком на адным канцы і разеткай на другім, дзве падкавападобныя фібулы са спіралепадобнымі канцамі, з правага боку ад грудзей звісаў ланцужок, на якім знаходзіўся ножык у скураным футарале. У другім кургане знойдзены дзве зоркападобныя спражкі, 12 пятлістых падвесак, ад левага пляча звісаў ланцужок з ножыкам[22]. На тэрыторыі радзімічаў вядомы пахаванні, дзе галаўныя ўборы ўпрыгожаны сярэбранымі з пазалотай бляшкамі.

Сярод сялянскіх пахаванняў ёсць багатыя. Часта сустракаюцца сярэбраныя скроневыя кольцы (мал. 23), спражкі, фібулы,

пярсцёнкі. Вядомы ў курганах і пазалочаныя рэчы. Гібрыдныя балта-славянскія наборы ўпрыгожванняў характэрны менавіта для тэрыторыі Беларусі. За яе межамі, акрамя сумежных раёнаў (Смаленшчына, Пскоўшчына), яны трапляюцца толькі ў адзінкавых выпадках. На тыя часы можна вылучыць і агульныя балта-славянскія ўпрыгожванні для ўсёй тэрыторыі Беларусі. Гэта каралі са шкляных пацерак у спалучэнні з бразготкамі, зааморфныя бранзалеты (сегментападобныя ў сячэнні), шматлікасць фібул, спіральныя пранізкі, ножыкі ў якасці амулетаў. Гэтыя факты сведчаць, што касцюм XI—XII стст. з'яўляецца паказчыкам значнай ролі балцкага субстрату ў этнагенезе беларусаў, вонкавым праяўленнем станаўлення этнічнай свядомасці. Па падставе распаўсюджвання скроневых кольцаў і аналізу курганных комплексаў можна сцвярджаць, што ў асноўным культурна-этнаграфічныя зоны (Паазер'е, Цэнтральная Беларусь, Панямонне, Заходняе Палессе, Усходняе Палессе, Падняпроўе)[23] пачалі складвацца ўжо ў пачатку 2-га тысячагоддзя. Рэгіёны, вылучаныя археалагічна, супастаўляюцца з этнаграфічнымі строямі. Можна прасачыць пераемнасць шэрагу характэрных рысаў. Так, у старажытнасці крыжыкі ў складзе караляў былі найбольш характэрнымі для Тураўшчыны. Такі звычай захаваўся ў давыд-гарадоцка-тураўскім строі[24]. Па археалагічных даных вылучаюцца астраўкі балцкага этнасу. Менавіта ў гэтых мясцінах і зараз этнаграфічны касцюм блізкі да этнаграфічнага касцюма літоўцаў (вілейскі, мастоўскі, кобрынскі, навагрудскі строі). Асабліва блізкі да літоўскага касцюма вілейскі строй. Гэта шапачкі з вушкамі (каптуры), цёмныя фартухі з вышыўкай кветкамі, клятчатыя наплечныя і галаўныя хусткі, кашулі, вышытыя белымі ніткамі, і інш.[25] На гэтых землях у пачатку 2-га тысячагоддзя жылі ўсходнелітоўскія плямёны.

## 6. КАСЦЮМ ГАРАДЖАН

Уяўленне аб касцюме гараджан атрымаць значна цяжэй, чым аб касцюме вяскоўцаў, таму што не так многа ёсць звестак аб гарадскіх некропалях. Гарады ўвесь час раслі, старажытнейшыя могілкі аказваліся ў гарадскіх межах і з цягам часу забудоўваліся. Некаторыя звесткі аб гарадскім насельніцтве даюць вынікі вывучэння навакольных курганоў, знаходкі ў культурных слаях гарадоў. Мяркуючы па кавалачках знойдзеных тканін і пісьмовых крыніцах, адзенне большай часткі гараджан шылася з шарсцяных і льняных тканін, зімовае адзенне — з футра авечкі, казы, мядзведзя (мал. 5). З Візантыі траплялі шаўковыя тканіны. Пісьмовыя крыніцы згадваюць таксама прывазныя з Захаду сукны. У культурных слаях гарадоў знойдзена шмат рэшткаў ад скураных вы-

рабаў. Аб касцюме гараджан уяўленне даюць выявы на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу[1], дзе паказаны мясцовыя падзеі (мал. 7) і людзі апрануты ў адзенне заходнееўрапейскага тыпу. На жанчынах доўгія прыталеныя сукенкі з вузкімі рукавамі, на галаве турбаны або пакрывалы са звісаючымі наперад канцамі[2]. Варта адзначыць, што ў тыя часы пісьмовыя крыніцы фіксуюць на тэрыторыі сучаснай Беларусі прысутнасць іншаземцаў — выхадцаў з Германіі, Скандынавіі, іншых краін.

У гарады сцякалася насельніцтва з розных зямель. Напачатку яно трымалася свайго племяннога касцюма і таму невыпадковыя знаходкі ў гарадах розных па этнічнай прыналежнасці ўпрыгожванняў, асабліва скроневых кольцаў. Мяркуючы па ўпрыгожваннях, напрыклад, у Навагрудку былі прышэльцы з Валыні, заходнія славяне і балты. У Ваўкавыску жыло шмат выхадцаў з дрыгавіцкіх і мазаўшанскіх зямель, а ў Рагачове акрамя радзімічаў жылі выхадцы з Кіеўшчыны. З цягам часу ў гарадах склалася свая мода, з'явіліся адметныя гарадскія ўпрыгожванні. Этнавызначальныя ўпрыгожванні даўжэй трымаліся ў феадальных сядзібах. Самымі распаўсюджанымі гарадскімі ўпрыгожваннямі былі шкляныя бранзалеты. Іх абломкі знойдзены амаль ва ўсіх гарадах і феадальных сядзібах. Найбольш распаўсюджанымі колерамі бранзалетаў з'яўляліся сіні, зялёны, бірузовы, карычневы, жоўты, чорны, фіялетавы. Па форме вылучаюцца бранзалеты вітыя, гладкія, кручаныя, уплошчаныя і інш. На белай ільняной кашулі такія рознакаляровыя бранзалеты ўяўлялі сабой непаўторнае ўпрыгожванне. Мода на форму і колер бранзалетаў часта мянялася. Так, у Мінску ў канцы XI — пачатку XII ст. у модзе былі чорныя, сінія і блакітныя бранзалеты, у XII — першай палове XIII ст.— зялёныя і карычневыя. У Віцебску любілі бранзалеты ізумрудна-зялёнага і травяністага колераў. У Клецку найбольш насілі зялёныя і бірузовыя бранзалеты, у Полацку знойдзена шмат чорных, у Тураве папулярнымі былі карычневыя, зялёныя і бірузовыя, у Пінску моднымі лічыліся карычневыя, фіялетавыя і зялёныя бранзалеты. Многа шкляных бранзалетаў знойдзена ў Слуцку, Мазыры, Навагрудку, Бярэсці, Оршы, Лукомлі. Сярод іх сустракаюцца вельмі рэдкія. Так, складаныя філігранныя ўпрыгожванні знойдзены ў Рагачове, Копысі, Мазыры. У Навагрудку бранзалеты былі вітыя, трохгранныя, рыфленыя, упрыгожаныя шкляной крошкай. Спецыфічна навагрудскімі лічацца бранзалеты, упрыгожаныя гарызантальнымі палосамі і жалабкамі, і шырокія рыфленыя.

Сярод феадальных сядзіб мода на шкляныя бранзалеты была найбольш распаўсюджана ў Вішчыне Рагачоўскага, Свіслачы Асіповіцкага, Маскавічах Браслаўскага раёнаў. У Вішчыне выяўлена больш за 1 тыс. абломкаў ад бранзалетаў. У Свіслачы насілі зялё-

ныя, фіялетавыя і карычневыя бранзалеты, з канца XII ст.— часцей карычневыя. У Свіслачы знойдзены рэдкія бранзалеты, некаторыя з якіх уяўляюць сабой каляровы жгут з тоненькіх жгуцікаў, заключаны ўнутры празрыстай шкляной масы. Сустракаюцца бірузовыя і жоўтыя бранзалеты з роспісам спецыяльнымі фарбамі[3]. Ёсць падставы гаварыць пра выраб шкляных бранзалетаў у Полацку, Свіслачы, Віцебску, Друцку. Значная частка такіх упрыгожванняў паступала з Кіева. У Беларусі вядомы таксама бранзалеты візантыйскага паходжання. 15% візантыйскіх бранзалетаў знойдзена ў Навагрудку. Зрэдку шкляныя бранзалеты знаходзяць у курганах, што лічыцца ўплывам гарадской моды. Напрыклад, чатыры шкляныя бранзалеты былі ў кургане каля в. Віркава на Бабруйшчыне.

Тыпова гарадскімі ўпрыгожваннямі з'яўляюцца шкляныя пярсцёнкі і шкляныя скроневыя кольцы. Больш за ўсё такіх пярсцёнкаў знойдзена ў Навагрудку (96 шт.). Па форме яны плоска-выпуклыя ці круглыя ў сячэнні, адзін пярсцёнак — рубчаты. У іншых гарадах знойдзена па два, тры, пяць шкляных пярсцёнкаў. У час археалагічных раскопак трапляюцца шкляныя ўстаўкі ад металічных пярсцёнкаў. Звычайна ўстаўкі зроблены з непразрыстага шкла. Вядомы і шкляныя скроневыя кольцы. Яны маюць дыяметр 2,5—5 см і падобны да бранзалетаў, але больш тонкія (0,2—0,65 см). Такія вырабы ёсць у Мінску, Гародні, Пінску. Часам замест скроневых кольцаў насілі шкляныя пярсцёнкі.

Тыпова гарадскімі ўпрыгожваннямі лічыліся колты — скроневыя ўпрыгожванні, якія ўяўлялі сабой полыя вырабы ў выглядзе круга ці зоркі. Мяркуецца, што ўнутр укладвалася тканіна, змочаная пахучымі масламі. Простыя гараджанкі насілі колты з бронзы, волава, алавяна-свінцовых сплаваў, больш заможныя — з серабра. Напрыклад, у Мінску сярэбраны колт быў спаяны з дзвюх пласцінак з ціснёнымі выявамі птушак і абкружаны ажурнай каймой, а колт з алавяна-свінцовага сплаву на вонкавым баку меў несапраўдназярнёны ўзор і па кромцы пласцін — пустацелыя шарыкі. Колты знойдзены таксама ў Полацку, Гародні, Бярэсці, Навагрудку. Матрыцы для ціснення колтаў з выявамі грыфонаў выяўлены ў Навагрудку, Вішчыне Рагачоўскага раёна, а ліцейная формачка для адліўкі колтаў вядома ў Гародні. Да гарадскіх упрыгожванняў адносяцца пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з нанізанымі на іх трыма сярэбранымі пацеркамі з рэльефным узорам. У XIII ст. у гарадах пачалі ўваходзіць у моду завушніцы ў выглядзе пытальніка, на канец якога надзяваліся шкляныя пацеркі. Для замацавання пацеркі стрыжань абкручваўся дротам і кончык завязваўся пятлёй. Даўжыня такіх завушніц складае 3,5—6,5 см. У гарадах больш разнастайнымі, чым у вёсках, былі металічныя пярсцёнкі і бранзалеты. Тут выяўлена больш

шырокасярэдзінных пярсцёнкаў, пярсцёнкаў са шчыткамі і са шклянымі ўстаўкамі, плеценых і пласцінчатых бранзалетаў. Толькі ў гарадах насілі створкавыя бранзалеты-наручы. Ёсць яны ў Полацку, Пінску, Гародні, Слоніме, на месцах феадальных сядзіб каля вёсак Раманава Горацкага і Вішчын Рагачоўскага раёнаў. Напрыклад, у Пінску гэта фрагмент літага білонавага створкавага бранзалета, паверхня якога пакрыта ўзорам з несапраўднай зерні. Сярэдняя частка знаходкі ўпрыгожана ўстаўкамі з цёмна-чырвонага шкла. На сярэбраных бранзалетах з Раманава і Вішчына выявы птушак. Цікавай знаходкай з'яўляецца касцяны бранзалет-наруч з Віцебска. У гарадах часцей, чым у вёсках, сустракаюцца манетападобныя падвескі і падвескі-лунніцы. Толькі ў гарадах вядомы каменныя абразкі і крыжыкі. Такія ўпрыгожванні часта абрамляліся серабром ці золатам.

Выраб упрыгожванняў быў развіты ва ўсіх гарадах і феадальных сядзібах. У Навагрудку нават узнікла аб'яднанне ювеліраўзлатакавалёў. Пра гэта сведчыць выяўлены ў час раскопак багаты квартал жытлаў і майстэрань ювеліраў. Тут выраблялiся спражкі, крыжыкі, гузікі, бляшкі для нашывання на адзенне. Мясцовыя ювеліры ведалі коўку, штампоўку, чаканку, ціснение, валачэнне дроту і іншыя аперацыі. Рэшткі майстэрні ювеліра адкапаны ў Вішчыне. Тут знойдзены матрыцы для вырабу крыжападобных падвесак, раснаў, колтаў з выявай барсаў, гліняная льячка з бронзай, шмат свінцовых пласцін.

Гараджане насілі таксама прывазныя ўпрыгожванні, сярод якіх каменныя (шыферныя) крыжыкі, абразкі і згаданыя візантыйскія шкляныя бранзалеты. Рэчамі ўсходняга імпарту былі сердалікавыя, крыштальныя пацеркі, ракушкі каўры. Са Скандынавіі траплялі ажурныя падвескі.

Як адзначалася, добра вывучаных гарадскіх некропаляў няма, але некаторыя могільнікі даследчыкі прывязваюць да канкрэтных гарадоў ці феадальных сядзіб. Гэта курганы каля Заслаўя, Лукомля, Навагрудка, Браслава, Барысава, Рагачова. Больш значным па колькасці насыпаў і ліку вывучаных курганоў з'яўляецца могільнік каля старажытнага Ізяслава. Тут у 10 курганных групах налічваецца 344 насыпы. Маюцца даныя аб 142 раскапаных курганах. На падставе аналізу скроневых кольцаў Ю. А. Заяц прыйшоў да высновы, што асноўную частку насельніцтва складалі крывічы. Іншыя этнічныя групы (дрыгавічы, валыняне) былі нешматлікімі[4]. З Навагрудкам звязаны курганны могільнік канца X—XI ст. каля в. Брацянка. Наогул, мяркуючы па навакольных курганах, насельніцтва Навагрудка было шматэтнічным — балты, валыняне, дрыгавічы, крывічы і інш.[5] Некропалямі Рагачова і Збараўскай сядзібы лічацца Хадосавіцкі могільнік і могільнік каля в. Га-

дзілавічы. У першым пахавана шмат выхадцаў з Кіеўскай зямлі, у другім — у асноўным радзімічы[6]. Дрысвяцкі гарадскі грунтавы могільнік нядаўна адкрыты каля в. Пашавічы Браслаўскага раёна. Згодна ўборам з гэтых пахаванняў, касцюм не меў выразных этнічных прыкмет у адрозненне ад усіх іншых пахавальных помнікаў Браслаўшчыны. Цікавасць уяўляе і грунтавы могільнік X— XI стст. каля в. Казлоўцы на Мёршчыне. Тут наборы ўпрыгожванняў балта-славянскія і зроблены высакаякасна ў адрозненне ад рэчаў з навакольных сельскіх курганных могільнікаў[7]. Не выключана магчымасць таго, што дадзены помнік быў звязаны з нейкім гарадскім паселішчам, у ліку якіх магла быць і першапачатковая Дзісна.

Вядомы пахаванні і непасрэдна на тэрыторыях гарадоў (Навагрудак, Гародня, Ваўкавыск). У асноўным такія пахаванні безынвентарныя, аднак у Навагрудку, напрыклад, сустрэты такія рэчы, як скроневыя кольцы са спіральнымі завіткамі, трохпацеркавыя скроневыя кольцы, каралі са шкляных, сердалікавых і крыштальных пацерак, дротавыя пярсцёнкі, паясныя кольцы, спражкі.

## 7. КАСЦЮМ ЗНАЦІ

Касцюм знаці, як і касцюм гараджан, меў шмат агульнага на ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы. Уяўленне аб касцюме знаці даюць фрэскі, летапісныя і археалагічныя даныя[1]. Знатныя жанчыны таго часу былі высокаадукаванымі і адыгрывалі вялікую ролю ў палітычным і грамадскім жыцці. Цікава, як выглядалі яны? Вядома, што сярод знатных жанчын быў распаўсюджаны хітон (шырокае доўгае адзенне), часцей за ўсё блакітнага ці чырвонага колераў. Падол упрыгожваўся залатой тасьмой, бахрамой з жэмчугу, абшываўся каштоўнымі камянямі. Наверх надзявалі кароткае адзенне з шырокімі рукавамі, якое падпяразвалася доўгім поясам, завязаным спераду. Наверх насілі плашч-накідку, часта падбіты мехам. Адзенне вышывалася залатымі ці сярэбранымі ніткамі. Зімовым адзеннем знатных жанчын былі шубы з футра рысі, бабра, вавёркі, расамахі, лісіцы, собаля. Зверху шубы абцягваліся тканінай і ўпрыгожваліся гарнастаевымі шкуркамі.

Галаўнымі ўборамі з'яўляліся павоі, ці мафорыі (ручніковыя ўборы), з арнаментальнай палоскай па краях. Такія пакрывалы рабіліся з тонкай шаўковай тканіны, часта з паласатага ўсходняга фуляру.

На тэрыторыі Беларусі вядома некалькі пахаванняў знатных жанчын (Мінск, Гародня, Навагрудак, Давыд-Гарадок). Мінскае пахаванне дзяўчынкі 14—17 гадоў знойдзена ў царкве другой паловы XII ст. На ёй былі рэшткі тканіны ад верхняга адзення (сукенкі) і такі ж пояс разам з падковападобнай фібулай, абцяг-

нутай гэтай жа тканінай. Стаячы каўнер зроблены на жорсткай аснове з гузікамі па разрэзе. Захаваліся валасы, укладзеныя ў дзве касы вакол галавы, і два вяночкі — адзін з кветак пtармікі, другі — з палатна. Наверсе ляжала тканіна палатнянага пераплядення. На нагах былі мяккія скураныя чаравікі з адваротам і прадзержкай, упрыгожаныя вышыўкай з эсападобным узорам[2].

У Навагрудку ў багатым квартале выяўлены рэшткі могілак, дзе на адным са шкілетаў знойдзены сярэбраныя бляшкі, пакрытыя пазалотай, і залатыя ніткі, якімі была расшыта тканіна. Залатыя ніткі парчы знойдзены таксама ў адным з тураўскіх саркафагаў, а ў давыд-гарадоцкім пахаванні была ўзорная візантыйская тканіна. У пахаванні дзяўчынкі 9—10 гадоў XIII ст. у Ніжняй царкве ў Гародні выяўлены гладкі фіялетавы шкляны бранзалет, медныя пярсцёнкі, на чэрапе былі рэшткі вяночка, упрыгожанага бляшачкамі і залатой вышыўкай. На месцы шыі ляжалі маністы з бісерных і гліняных пацерак у спалучэнні са спіральнымі пранізкамі і ракавінамі каўры.

Як бачна па мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу, на касцюм знаці, як і гараджан, аказвала ўплыў заходнееўрапейская мода. Верхняя частка сукенкі абцягвала торс, ніжняя частка ад бёдзер рабілася з другой тканіны. Зверху рукавы шыліся вузкімі, ад локця пашыраліся і былі вельмі доўгімі. Каўнер і краі рукавоў упрыгожваліся вышыўкай. Спадніца і шырокія часткі рукавоў рабіліся плісіраванымі[3].

У гарадскіх культурных пластах часта сустракаюцца каштоўныя ўпрыгожванні. Ёсць шыферныя крыжыкі і абразкі, узятыя ў аправу з серабра і золата. Такія аправы ўпрыгожваліся сканню, гравіроўкай, чэрню, жэмчугам, каштоўнымі камянямі. Насіліся гэтыя ўпрыгожванні ў складзе караляў. Напрыклад, у Полацку знойдзены касцяны абразок са слядамі пазалоты з выявамі Канстанціна і Алены, а ў Ваўкавыску — абразок з гравіраванай выявай святога Дзмітрыя. Фрагмент ад нейкага каштоўнага ўпрыгожвання быў у слоі пачатку XIII ст. у Полацку. Ён меў выгляд пласцінкі памерам 10×7 мм. Арнаменты зроблены ў выглядзе крыжыкаў, запоўненых эмалевай масай сіняга, белага і чырвонага колераў. Знаходка залатой пацеркі зафіксавана ў Лукомлі. У Полацку і Барысаве (мал. 23:12) ёсць знаходкі трохпацеркавых скроневых кольцаў (завушніц). Падобныя ўпрыгожванні добра вядомы ў скарбах на тэрыторыі Кіеўскага, Пераяслаўскага і Чарнігаўскага княстваў. Залатая завушніца вядома ў Гародні (мал. 23:10).

Толькі знатныя жанчыны насілі расны — скроневыя ўпрыгожванні, якія складаліся з галоўкі, да якой прымацоўваліся ланцужкі, чаргуючыся з бляшкамі. Расны ад галаўнога ўбору спускаліся да плячэй з абодвух бакоў. Прыклады цэлых раснаў ёсць сярод уп-

рыгожванняў вішчынскага скарбу. У культурных слаях гарадоў сустрэты фрагменты раснаў. Так, у Навагрудку гэта залатая пацерка з ланцужком, медальёнчык, упрыгожаны перагародчатай эмаллю чырвонага і зялёнага колераў, кавалачкі залатых ланцужкоў. Хутчэй за ўсё ад раснаў была мініяцюрная крутарогая лунніца з Полацка, упрыгожаная выемчатай эмаллю сіняга колеру. Асабліва мода на расны была распаўсюджана ў другой чвэрці XII — першай палове XIII ст.

Наогул прыналежнасцю княжацкага касцюма былі бармы — акруглыя медальёны з выявамі лікаў дэісуснага чыну, а таксама арнаментальных крыжоў. У мінскім храме каля дзіцячага пахавання знойдзены залаты бранзалет вагой 75,472 г. Ён сплецены з тонкіх драціҷак і заканчваецца на канцах стылізаванымі змяінымі галоўкамі (мал. 23). Падобны бранзалет вядомы з кіеўскага скарбу, знойдзенага ў 1900 г. З залатых упрыгожванняў часцей за ўсё сустракаюцца пярсцёнкі (Гародня, Бярэсце, Віцебск, Полацк, Навагрудак). Напрыклад, у Віцебску залаты пярсцёнак паходзіў з пласта XII ст. і быў дротавым, рамбічным у сячэнні, з разамкнутымі канцамі, меў вагу 22,35 г. Полацкі пярсцёнак з круглай устаўкай з сапфіра датуецца XII — пачаткам XIII ст. Яго памер № 15, проба золата 958, вага 2,57 г. Навагрудскі пярсцёнак мае ўстаўку з граната і лацінскі надпіс, які азначае малітву. Аналогія гэтаму ўпрыгожванню вядома ў Брытанскім музеі (Лондан).

Акрамя залатых часта сустракаюцца пазалочаныя ўпрыгожванні, сярод якіх больш за ўсё пацерак, гузікаў, крыжоў-энкалпіёнаў (мал. 24). У Полацку знойдзены пазалочаны пярсцёнак з шасцікутным шчытком, на якім выгравіравана выява птушкі. Ёсць і каштоўныя сярэбраныя рэчы. Напрыклад, у Друцку гэта фрагмент бранзалета са сканню, а таксама ўжо згаданыя бранзалеты-наручы.

Уяўленне аб уборах знаці даюць і скарбы. Скарбаў з рэчамі на Беларусі вядома звыш 10. У дзягцянскім скарбе (Капыльскі раён) разам з 200 манетамі знойдзена 20 ювелірных упрыгожванняў. Гэта пярсцёнкі з устаўкамі з гранёных камянёў, пласцінчатыя бранзалеты шырынёй 4—4,5 см, пяць пацеркавых скроневых кольцаў, дзве завушніцы і інш.[4] Добра захаваліся ўпрыгожванні ў вішчынскім скарбе (Рагачоўскі раён): колты з двухбаковымі выявамі птушак, выкананымі ў тэхніцы перагародчатай эмалі, зоркавы шасціканцовы колт, колт з ажурнай каймой і выявамі дзвюх птушак і крына, дзве расны, бранзалет, кручаны з трох жгутоў са шчытковымі канцамі ў выглядзе стылізаваных галовак, двухстворкавы пласцінчаты бранзалет з гравіраванымі выявамі птушак і арнаментам, чатыры крыжападобныя падвескі, тры сярэбраныя пацеркі, два ланцужкі з паўцыліндрыкаў. Усе ўпрыгожванні зроблены з высакаякаснага серабра. Два колты, крыжападобныя падвескі, пацеркі і пласцінчаты бранзалет пазалочаныя. Рэчы маюць аналогіі

ў скарбах, схаваных на Кіеўшчыне ў часы мангола-татарскай навалы. Упрыгожванні з гэтага скарбу выраблены ў другой палове XII — першай трэці XIII ст. Скарб складаўся з рэчаў, якія ўжо доўга насілі. Многія з іх былі нават паламанымі. Паміж вырабам упрыгожванняў і іх захаваннем прайшло шмат часу[5].

Каля пас. Козі Рог Буда-Кашалёўскага раёна ў 1980 г. знойдзены скарб з сямі вітых шыйных грыўняў з білонавага дроту круглага сячэння. Наканечнікі грыўняў плоскія і арнаментаваныя. Падобны скарб быў знойдзены ў гэтых мясцінах і ў 60-я гады XX ст. Такія знаходкі лічацца рэдкімі для Беларусі. Магчыма, грыўні належалі гандляру, які вёз іх на продаж, але так склаліся абставіны, што ён вымушаны быў схаваць свой тавар[6]. Пяць залатых упрыгожванняў агульнай вагой 334,17 г уваходзілі ў склад полацкага скарбу, знойдзенага ў 1984 г. Тут былі бранзалеты з гранёнага дроту з абрубленымі канцамі, з круглага дроту з завязанымі канцамі, са скручаных чатырох драцінак, з дзвюх драцінак і кавалак плеценай грыўні. У скарбе каля в. Сухадрэва (Аршанскі раён) разам з сярэбранымі куфічнымі дырхемамі былі дзве шыйныя грыўні, пярсцёнкі з каштоўнымі камянямі і інш. У скарбах каля в. Стражавічы (Чашніцкі раён) знойдзены залатыя пярсцёнкі, сярэбраныя паясныя бляшкі з чаканеным арнаментам, пазалочаны гузік і інш. Скарб каля в. Стары Дзедзін (Клімавіцкі раён) складаўся з дзвюх нізак караляў, у якіх усходнія манеты чаргаваліся з сердалікавымі і шклянымі пацеркамі. У склад гараўлянскага скарбу (Глыбоцкі раён) уваходзілі сярэбраныя бранзалеты, бранзалетападобныя скроневыя кольцы, падвескі-манеты, пярсцёнкі, золаташкляныя пацеркі (мал. 25). Пяць сярэбраных шыйных грыўняў з конусападобнымі канцамі і бранзалет складалі скарб каля в. Мілкавічы Салігорскага раёна. Аналогіі гэтым грыўням вядомы ў асноўным ва Усходняй Латвіі. Каля в. Афераўшчына на Ушаччыне знойдзены дзве сярэбраныя шыйныя грыўні, якія ўяўляюць сабой стрыжні з завужанымі канцамі. Адзін канец быў з пятлёй, другі — у выглядзе кручка.

Таксама вядома шмат выпадковых знаходак каштоўных рэчаў. Напрыклад, каля в. Заборцы на беразе Лосвідскага возера паблізу Віцебска знойдзены сярэбраныя шыйныя грыўні, каля Крычава — сярэбраны плоскі бранзалет з выявамі птушак. Знаходка старажытнага залатога калье згадваецца на тэрыторыі былой Віцебскай губерні.

Большасць упрыгожванняў зроблена на месцы. Пра гэта сведчыць іх мясцовая балта-славянская форма, запасы сярэбранага і залатога лому ў скарбах, шматлікія ліцейныя формачкі і сляды ювелірнага рамяства ў гарадах, асабліва ў Навагрудку.

Менш звестак пра мужчынскі касцюм знаці. Е. А. Брайчэўская, якая спецыяльна займалася мужчынскім касцюмам X— XIII стст.

на тэрыторыі Усходняй Еўропы, вылучае два віды княжацкага касцюма — урачысты і штодзённы. Урачысты касцюм прызначаўся для наведвання храма, прыёму паслоў. Яго складала верхняя кашуля з поясам, штаны, боты, плашч, высокая шапка з мехавой апушкай, якая ўпрыгожвалася падвескамі з жэмчугу. Княжацкія шапкі звычайна былі чырвонага, жоўтага ці сіняга колераў. Адзенне абшывалася каштоўнымі камянямі. На верхнюю кашулю надзяваліся каралі ў выглядзе закругленага каўняра, які ўпрыгожваўся жэмчугам і зашпільваўся на гузік. Для штодзённага касцюма характэрныя кароткая кашуля з акруглым выразам гарлавіны і штаны. На галаве насілі трапецападобнай формы вянец або шапкі з навушнікамі. Хутчэй за ўсё такая шапка паказана на слуцкай шахматнай фігурцы караля. Мужчынскія кашулі шыліся з белай, сіняй ці чырвонай тканіны, падпяразваліся нешырокім поясам і ўпрыгожваліся вышыўкай раслінным арнаментам. Наверх кашулі надзяваўся кафтан з дарагой тканіны, які таксама ўпрыгожваўся вышыўкай. Верхнім адзеннем быў плашч, падбіты мехам. У летапісах плашч згадваецца як корзна, мятль, луда і інш. Насілі яшчэ кажухі і шубы, якія зверху абцягваліся шаўковай тканінай. Боты рабіліся з каляровай скуры, часта расшываліся залатымі ці сярэбранымі ніткамі і нават упрыгожваліся каштоўнымі камянямі[7]. Аб касцюме знатных мужчын на Беларусі можна меркаваць па фрэсках Спаскай царквы ў Полацку і дома баярына ў Навагрудку. У Спаскай царкве на галаве аднаго са святых паказана шапачка цёмна-жоўтага колеру, абшытая жэмчугам, такія ж падвескі спускаюцца на вушы. Адзенне малінава-чырвонага колеру. Уяўленне аб мужчынскіх прычосках дае выява Васіля Вялікага ў гэтай жа царкве. Твар абрамлены прамымі валасамі, якія закрываюць вушы і злучаюцца з барадой. Доўгія вусы пераходзяць у бараду[8]. На фрэсцы з Навагрудка паказана галава ў блакітнай шапцы з мехавой апушкай.

Два пахаванні знатных мужчын знойдзены ў Гародні. У адным пахаваны мужчына 45—50 гадоў, у другім — хлопчык-падлетак. У першым пахаванні пад патыліцай знойдзены фрагменты шчыльна арнаментаванай залататканай павязкі даўжынёй 31,5 см, шырынёй 3 см, расшытай жэмчугам і дробным бісерам. Каля скроні ляжалі абломкі ажурнай філіграннай завушніцы, на ключыцах — металічныя бляшачкі. На пальцы знойдзены залаты пярсцёнак з неаграненым чырвоным каменем, які па баках трымалі львіныя галовы (мал. 23:11). У пахаванні падлетка знойдзены бронзавы спіральны пярсцёнак, на грудзях — васьміканцовы крыжык з шэрага каменя.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

У гісторыі грамадства касцюм заўжды выконваў шмат функцый, важнейшымі з якіх былі функцыі этнічнай прыналежнасці і сацыяльнага становішча. Развіццё касцюма з'яўляецца паказчыкам развіцця мастацкіх густаў. Асаблівае значэнне мае вывучэнне касцюма пачатку 2-га тысячагоддзя, менавіта таго перыяду ў гісторыі, калі адбывалася зараджэнне беларускага этнасу. Каштоўнай крыніцай з'яўляюцца матэрыялы раскопак курганоў, дзе касцюм уяўляе сабой комплекс. Па рэштках тканін і размяшчэнню ўпрыгожванняў можна ўмоўна рэканструяваць касцюм.

Асноўнымі відамі адзення былі кашуля і паясное адзенне, верхнім адзеннем — світы, наплечныя пакрывалы і кажухі. Вядомы рэшткі адзення з ільняных, шарсцяных і шаўковых тканін, сярод якіх сустракаюцца вышываныя. Акрамя вышыўкі ніткамі была распаўсюджана вышыўка бісерам і металічнымі спіральнымі пранізкамі. У адрозненне ад касцюма вяскоўцаў гараджанкі і жанчыны з княжацка-баярскага асяроддзя насілі сукенкі, часта па дзве. Важнейшай часткай касцюма былі галаўныя ўборы: вяночкі (у дзяўчат), чапцы і ручніковыя ўборы (у замужніх жанчын). Шырока былі распаўсюджаны таксама балцкія па паходжанню галаўныя ўборы з нашыўнымі металічнымі бляшачкамі і вяночкі, зробленыя са спіральных пранізак і пласцінак.

Значную ролю ў старажытным касцюме адыгрывалі ўпрыгожванні. Этнавызначальнымі з'яўляліся скроневыя кольцы: для крывічанак — бранзалетападобныя, дрыгавічанак — пярсцёнкападобныя з зярнёнымі пацеркамі, радзімічанак — сяміпрамянёвыя і інш. Падвескі былі не толькі ўпрыгожваннямі, але ў першую чаргу выконвалі ролю амулетаў. Да ўпрыгожванняў адносяцца шматлікія бранзалеты, пярсцёнкі, фібулы, шыйныя грыўні. У большасці курганных могільнікаў касцюм у рознай ступені мае балцкія і славянскія рысы. Гібрыдны балта-славянскі ўбор характэрны пераважна для тэрыторыі Беларусі і за яе межамі сустракаецца толькі ў адзінкавых выпадках. Гэтыя факты сведчаць аб значнасці балцкага субстрату ў этнагенезе беларусаў і з'яўляюцца вонкавым праяўленнем станаўлення этнічнай свядомасці. Характэрнымі рысамі тагачаснага касцюма былі вітыя шыйныя грыўні з петлепадобнымі канцамі, каралі са шкляных пацерак у спалучэнні з бразготка-

мі, вайнагі са скроневымі кольцамі, ножыкі ў скураных футаралах на поясе ці каля пляча, нашэнне замест спражак падкովападобных фібул са спіралепадобнымі канцамі. Для мужчынскага касцюма характэрнымі з'яўляліся паясы з раздзяляльнымі кольцамі і розныя ўпрыгожванні.

На падставе аналізу курганных комплексаў можна сцвярджаць, што ў асноўным культурна-этнаграфічныя зоны пачалі складвацца менавіта ў пачатку 2-га тысячагоддзя. Вылучаныя археалагічна рэгіянальныя асаблівасці вясковага касцюма супастаўляюцца з этнаграфічнымі строямі. На падставе распаўсюджвання скроневых кольцаў і аналізу пахавальных комплексаў можна сцвярджаць, што культурна-этнаграфічныя зоны (Паазер'е, Цэнтральная Беларусь, Панямонне, Заходняе Палессе, Усходняе Палессе, Падняпроўе) пачалі складвацца ў пачатку 2-га тысячагоддзя. Касцюм гараджан і знаці быў падобны на касцюм гэтых саслоўяў ва ўсёй Усходняй Еўропе, але для яго характэрна шмат мясцовых традыцыйных балта-славянскіх элементаў.

# ЛІТАРАТУРА


**Уводзіны**

1. Fehlig U. Mode gestern und heute. Leipzig, 1984. S. 9—15.
2. Чарняўскі М. М. Старажытны бурштын Паўночнай Беларусі // Помнікі культуры. Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 156—159.
3. Чарняўскі М. М. Пры вытоках арнаменту // ПГКБ. 1971. № 2. С. 19— 21.
4. Каспарова К. В. Могильники и поселения зарубинецкой культуры у дер. Отвержичи // КСИА. 1967. Вып. 112. С. 122—123.
5. Радзивилловская, или Кенигсбергская, летопись (Фотомеханическое воспроизведение рукописи). Спб., 1902; Лурье Я. С. О происхождении Радзивилловской летописи // Вспомогательные исторические дисциплины. Вып. XVIII. Л., 1987; Победова О. И. Миниатюры русских исторических рукописей. М., 1965. С. 49—101.
6. Древняя одежда народов Восточной Европы // Материалы к историко-этнографическому атласу. М., 1986; Матейко І. І. Український народний одяг. Київ, 1972; Ястребицкая А. Л. Западная Европа XI—XIII вв. М., 1978; Зариня А. Одежда ливов. Рига, 1988.
7. Раманюк М. Ф. Беларускае народнае адзенне. Мн., 1981; Молчанова Л. А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. Мн., 1981; і інш. Шмат цікавага этнаграфічнага матэрыялу загінула ў часы рэпрэсій 30-х гадоў. Прапалі падрыхтаваныя да друку камісіяй па вывучэнню матэрыяльнай культуры (В. Ластоўкі, А. Шлюбскі, М. Каспяровіч, М. Мялешка, І. Сербаў) працы: «Альбом беларускага народнага арнаменту», «Альбом беларускіх ткацкіх узораў Віцебшчыны», «Альбом беларускіх народных паясоў», «Прычоскі і галаўныя ўборы беларускага старажытнага часу». Не надрукаваны таксама «Альбом народнага адзення», зроблены ў 60-я гады мастаком Л. Баразной.

**1.**

1. Левинсон-Нечаева М. Н. Ткачество // Труды ГИМ. Вып. 33. М., 1959. С. 9—37; Клейн В. К. Путеводитель по выставке тканей VII—XIX вв. М., 1926; Фехнер М. В. Шелковые ткани в средневековой Восточной Европе // СА. 1982. № 2. С. 57—70.
2. Jaworski Z. Proba badań wyłny resztek tkanin z kurhanów wilenskich. W-wa, 1939. T. XVI. S. 456; Jaworski Z. Wełny tkanin z wczesnohistorycznych kurhanów LSRR // Slavia Antiqua. T. II. Z. 2. Poznań, 1949/1950. S. 486—507.
3. Заяц Ю. А. Справаздача аб палявых даследаваннях 1977 г. // Архіў Інстытута гісторыі АН Беларусі. Справа № 572.
4. Сабурова М. А. Погребальная древнерусская одежда и некоторые вопросы ее типологии // Древности славян и Руси. М., 1988. С. 269—270.
5. Императорский Российский исторический музей. Указатель памятников. М., 1893. С. 141.
6. Левинсон-Нечаева М. Н. Ткачество // Труды ГИМ. Вып. 33. М., 1959. С. 9—37.
7. Вяршук В. Я. Прыродныя фарбы Беларусі // Запіскі аддзела прыроды і народнай гаспадаркі. Мн., 1932. Т. 2. С. 231—257.

9. Даркевич В. П., Фролов В. П. Старорязанский клад // Древняя Русь и славяне. М., 1978. С. 351.
10. Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980. С. 55.
11. Назаренко В. А. О находке очелья в Новогрудке // Культура средневековой Руси. Л., 1974. С. 170—172.
12. Зеленин Д. К. Женские головные уборы восточных славян // Slavia. Прага, 1926. Т. 5. Ч. 2. С. 303—338.
13. Седов В. В. К происхождению белорусов // СЭ. 1967. № 2. С. 125.
14. Раскопки в имении Каховка Витебского уезда // Древности. Труды императорского Московского археологического общества. М., 1880. С. 78.
15. Лысенко П. Ф. Берестье. Мн., 1985. С. 374.
16. Левашова В. П. Обработка кожи, меха и других видов животного сырья // Очерки по истории русской деревни X—XIII вв. М., 1959. С. 38— 60; Брайчевська О. А. Давньоруський чоловічий костюм X—XIII стст. (за археологічними, писемними та образотворчими джерелами): Автореф. дис. ... канд. іст. наук. С. 16.
17. Шмидт Е. А. Курганы XI—XIII вв. у дер. Харлапово в Смоленском Поднепровье // Материалы по изучению Смоленской области. Смоленск, 1957. Вып. 2. С. 184—280.
18. Векслер А. Г., Рабинович М. Г., Шеляпина Н. Г., Герасимов М. М. История Москвы // Антропологическая реконструкция и проблемы палеоэтнографии. М., 1973. С. 21; Сабурова М. А. Женский головной убор у славян (по материалам Вологодской экспедиции) // СА. 1974. № 2. С. 85—97.
19. Древняя одежда народов Восточной Европы. С. 146—171.
20. Ястребицкая А. Л. Западная Европа XI—XIII вв. С. 75—77.

### 3.

1. Равдина Т. В. Погребения X—XI вв. с монетами на территории Древней Руси. Каталог. М., 1988.
2. Николаева Т. В., Чернецов А. В. Древнерусские амулеты-змеевики. М., 1991. С. 5—6.
3. Мяцельскі А. Дробнае мастацкае ліццё з некаторых пасожскіх гарадоў // Мастацтва Беларусі. 1990. № 6. С. 75.
4. Лысенко П. Ф. Берестье. С. 267—269.
5. Петренко В. П. О бронзовых «фигурках викинга» // Исторические связи Скандинавии и России (IX—XX вв.) // Труды Ленинградского отделения ИИ АН СССР. Вып. 11. Л., 1970. С. 253—261.
6. Алексеев Л. В. Мелкое художественное литье из некоторых западнорусских земель (кресты и иконки из Белоруссии) // СА. 1974. № 3. С. 204— 219; Николаева Т. В. Древнерусская мелкая пластика из камня (XI— XV вв.) // Археология СССР. Свод археологических источников. Вып. Е1—60. М., 1983.
7. Побоаль Л. Д. Антычныя шкляныя пацеркі з раскопак у Чапліне // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 4. С. 75—84.
8. Школьникова Н. А. Стеклянные украшения конца I тыс. н. э. на территории Поднепровья // СА. 1978. № 1. С. 97—104.
9. Аксентон Ю. Д. «Дорогие камни» в культуре Древней Руси (по памятникам прикладного искусства и литературы XI—XV вв.). Автореф. дис. ... канд. ист. наук. М., 1974; Сергеева З. М. К изучению восточного импорта из памятников X—XIII вв. Белоруссии (по материалам сердоликовых и хрустальных бус) // Гомельщина (археология, история, памятники). Гомель, 1991. С. 92—94.
10. Cehak-Hołubowiczowa H. Slowiańskie groby kurhanowe koło wsi Czerniewicz w pow. Dzisnieńskim // Wiadomosci archeologicznie. W-wa, 1939—1948. T. XVI. S. 419—455.

11. Щапова Ю. Л. Стеклянные украшения, их роль и место в материальной культуре восточных славян и их соседей // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 93—95.

**4.**

1. Сергеева З. М. Курганы у дер. Новинки (Витебская обл.) // КСИА. Вып. 144. М., 1975. С. 85—90.
2. Маслова Г. С. Народная одежда в восточнославянских традиционных обычаях и обрядах XIX — начала XX в. М., 1984. С. 85—101.
3. Штыхаў Г. В. Гарбарнае рамяство старажытнага Полацка // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1961. № 3. С. 63—73; Ён жа. Шавецкае рамяство старажытнага Полацка // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1962. № 3. С. 81—90.
4. Тарасов С. В. Технология и инструментарий сапожного ремесла Полоцка и Минска (XI—XVIII вв.) // Памятники науки и техники. 1987—1988. М., 1989. С. 164—175.
5. Лысенко П. Ф. Берестье. С. 287—300.
6. Воронин Н. Н. Древнее Гродно. С. 62—63.
7. Колединский Л. В. Верхний замок Витебска в XI—XVII вв.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1991. С. 18, 20; Бубенько Т. С. Кожаная обувь средневекового Витебска XII—XVIII вв. (по материалам исследования Нижнего замка) // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі (Новыя матэрыялы і даследаванні). Мн., 1993. С. 127—137.
8. Тарасенко В. Р. Древний Минск // Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. С. 229—232.
9. Фадзеева В. Я. Да пытання аб старажытнарускім арнаментальным шыцці X—XIII стст. // Помнікі старажытнабеларускай культуры. Мн., 1984. С. 78—83; Тарасаў С. Арнаментацыя мінскіх чаравікаў // Мастацтва Беларусі. 1985. № 12. С. 70—71.
10. Штыхаў Г. В. Гарбарнае рамяство старажытнага Полацка // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1961. № 3. С. 63—73.
11. Тарасов С. В. Технология и инструментарий сапожного ремесла Полоцка и Минска (XI—XVIII вв.) // Памятники науки и техники. 1987—1988. С. 164—175.
12. Древняя одежда народов Восточной Европы // Материалы к историко-этнографическому атласу. С. 48—51.

**5.**

1. Седов В. В. Браслетообразные височные кольца восточных славян // Новое в археологии. М., 1972. С. 138—144; Ён жа. Восточные славяне в VI—XIII вв. Археология СССР. С. 114—118.
2. Сергеева З. М. Курганы у дер. Новинки (Витебская обл.) // КСИА. Вып. 144. С. 85—90.
3. Ochmański Jerzy. Ludność litewska we włości Obolce na Białorusi wschodniej w XIV—XVI wieku// Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1967. T. V. S. 147—158.
4. Cehak-Hołubowiczowa H. Material i zagadnienia cmentarzyska kurhanowego koło wsi Nawry w powiecie Postawskim // Rocznik archeologiczny. Wilno, 1937. N 1. S. 5—51.
5. Левко О. Н. Дроздовский курганный могильник // Историко-археологический семинар «Чернигов и его округа в IX—XIII вв.». Тезисы докладов. Чернигов, 1988. С. 78—80.
6. Cehak-Holubowiczowa H. Słowiansko-wareskie cmentarzysko kurganowe kolo Porzecza w powiecie Dziśnieńskim // Przegląd archeologiczny. T. VI. Cz. 2—3. 1938—1939. S. 178—203.
7. Сергеева З. М. К изучению культурно-экономических связей западнорусских земель с Прибалтикой (по находкам звериноголовых браслетов) // КСИА. Вып. 164. М., 1981. С. 30—35.

8. С е д о в В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. Археология СССР. С. 113—122.
9. К о л е д и н с к и й Л. В. Детинец летописного Случеска (некоторые итоги археологического изучения 1985—1986 гг.) // Тезисы историко-археологического семинара «Чернигов и его округа в IX—XIII вв.». Чернигов, 1990. С. 38— 42.
10. З а в и т н е в и ч В. Археологическая экскурсия в Полесье // Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. Кн. 4. Киев, 1890. С. 22; Ё н ж а. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье // Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. Кн. 6. Киев, 1892. С. 11—72.
11. Л я ў д а н с к і А. М. Розныя знаходкі // Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932. Т. 3. С. 245 (табл. 2).
12. М ы ш е н к о в Н. К. Курганы Бобруйского уезда Минской губернии (исследования 1888 года) // Вестник археологии и истории. Вып. IX. Спб., 1892. С. 59—97.
13. П а в л о в а К. В. Население Верхнего Понеманья по материалам курганных могильников окрестностей Новогрудка // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 45—47.
14. J a s k a n i s D a n u t a. Materiały z badań wczesnosredniowiecznego cmentarzyska w miejscowości Podros koło Wołkowyska w BSRR // Rocznik Białostocki. Białystok, 1962. T. III. S. 337—363.
15. И о в О. В. Сельские поселения IX—XIII вв. западной части Белорусского Полесья: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1991. С. 21; Ё н ж а. Этнічны склад насельніцтва Заходняга Палесся ў X—XIII стст. (па матэрыялах сельскіх паселішчаў) // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992. С. 25—36.
16. Г у р е в и ч Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья. Л., 1961; П а в л о в а К. В. Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // КСИА. Вып. 166. М., 1981. С. 78—84; С е д о в В. В. Земля ятвягов (племенная дифференциация) // Vakaru, baltu, archeologija ir istorija. Klaipeda, 1989. С. 50—55; Астраускас А. Погребальные памятники ятвяжской земли // Vakaru, baltu, archeologija ir istorija. Klaipeda, 1989. С 70—77.
17. К в я т к о ў с к а я А. В. Каменные могильники Белорусского Понеманья // КСИА. Вып. 183. М., 1986. С. 32—41; З в е р у г о Я. Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мн., 1989. С. 37—42.
18. К в я т к о ў с к а я А. В., Б о х а н Ю. М. Вясковы жаночы касцюм XI—XVII стст. (па матэрыялах каменных могільнікаў Беларусі. Спроба рэканструкцыі) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Вып. 4. Мн., 1994. С. 114— 133.
19. З в е р у г о Я. Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мн., 1989. С. 21—29.
20. С е д о в В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. // Археология СССР. С. 154.
21. Соловьева Г. Ф. Славянские союзы племен по археологическим материалам XIII—XIV вв. // СА. 1956. Т. XXV. С. 156—160.
22. Б а г а м о л ь н і к а ў У. У. Асноўныя вынікі вывучэння радзіміцкіх курганоў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1979. № 3. С. 66—72.
23. Т и т о в В. С. Историко-этнографическое районирование материальной культуры белорусов. Мн., 1983.
24. Р а м а н ю к М. Ф. Беларускае народнае адзенне. М., 1981.
25. B e r n o t i e n é S t a s é. Lietuvių liaudies moterų drabužiai XVIII a. pab. — XX a. pr. Vilnius, 1974.

**6.**

1. Радзивилловская, или Кенигсбергская, летопись. Т. 2. Кн. 1. Фотомеханическое воспроизведение рукописи. 1902. С. 115—127.
2. Я с т р е б и ц к а я А. Л. Западная Европа XI—XIII вв. С. 75—77.
3. С к р и п ч е н к о Т. С. Обмен и местное производство на территории Белоруссии в XII—XIV вв. (по материалам стеклянных браслетов): Автореф. дис. ... канд. ист. наук. М., 1982.

4. З а я ц Ю. А. Курганный могильник Изяславля // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 36—40.
5. П а в л о в а К. В. Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // КСИА. Вып. 166. С. 78—84.
6. С о л о в ь е в а Г. Ф. Славянские курганы близ Рогачева Гомельской области // КСИА. Вып. 129. М., 1972. С. 50—53.
7. С е м я н ч у к Г. М. Новая катэгорыя археалагічных помнікаў на тэрыторыі Полацкай зямлі (грунтавыя могільнікі X—XIII стст.) // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Тэзісы дакладаў. Полацк, 1992. С. 53—56.

**7.**

1. В ы с о ц к и й С. А. Светские фрески Софийского собора в Киеве. Киев, 1989. С. 80—133; Брайчевська О. А. Давньоруський чоловічий костюм X—XIII стст. (за археологічними, писемними та образотворчими джерелами): Автореф. дис. ... канд. іст. наук.
2. Т а р а с е н к о В. Р. Древний Минск // Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. С. 229—232; Сабурова М. А. Погребальная древнерусская одежда и некоторые вопросы ее типологии // Древности славян и Руси. С. 266—271.
3. Я с т р е б и ц к а я А. Л. Западная Европа XI—XIII вв. С. 75—77.
4. Р я б ц е в и ч В. Н. Новые монеты дегтянского клада // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. С. 204—210.
5. З а г о р у л ь с к и й Э. М. Исследования Вищинского замка // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 86—90.
6. Л и т в и н о в В. А., М а к у ш н и к о в О. А., Д р о б у ш е в с к и й А. И. Клады древнерусских шейных гривен из Белоруссии // СА. 1978. № 1. С. 263— 266.
7. Б р а й ч е в с ь к а О. А. Давньоруський чоловічий костюм X—XIII стст. (за археологічними, писемними та образотворчими джерелами): Автореф. дис. ... канд. іст. наук. С. 12—13; Я н а ж. Летописные данные о древнерусском мужском костюме X—XIII вв. // Земли Южной Руси в IX—XIV вв. Киев, 1985. С. 119—124; В ы с о ц к и й С. А. Светские фрески Софийского собора в Киеве. Киев, 1989. С. 80—133.
8. Ц е р а ш ч а т а в а В. В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XVIII стст. Мн., 1986. С. 12—53.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

АО — Археологические открытия
КСИА — Краткие сообщения Института археологии
ПГКБ — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі
СА — Советская археология
СЭ — Советская этнография
Труды ГИМ — Труды Государственного исторического музея

## ДАДАТАК




*Мал. 1. Упрыгожванні з бронзы. Жалезны век*




*Мал. 2. Гузікі і тканіны: 1 – гузікі, 2 – шаўковыя тканіны з Мінска і Гродна*




*Мал. 3. Рэканструкцыі касцюмаў XI ст.: 1 – касцюм жанчыны з Пасожжа, 2 – касцюм жанчыны з Заслаўя*



*Дзявочыя касцюмы XI – XII стст. Паўночная Беларусь*



*Касцюмы гараджанак XI – XII стст.*



*Мужчынскія касцюмы XI – XII стст.*




*Мал. 7. Выявы касцюмаў на рэчах прыкладнога мастацтва (1, 3)
і мініяцюрах рукапісаў (2, 4)*



*Мал. 8. Пояс і спражкі з бронзы*




*Мал. 9. Прылады майстроў і краўцоў: 1–4 – іголкі, 5 – напарстак, 6–8 – праселкі, 9 – касцяная вілачка для пляцення паясоў, 10 – нажніцы*




*Мал. 10. Рэканструкцыі дзявочых галаўных убораў: 1 – крывічанка, 2 – дрыгавічанка, 3 – радзімічанка*



















*Мал. 11. Галаўныя ўборы дзяўчат (1–3) і жанчын (4–6)*




*Мал. 12. Скроневыя кольцы*




*Мал. 13. Падвескі-амулеты*




*Мал. 14. Пацеркі (шкляныя і металічныя зярнёныя)*




*Мал. 15. Шыйныя грыўні з бронзы*




*Мал. 16. Бронзавыя фібулы*




*Мал. 17. Бронзавыя пярсцёнкі*




*Мал. 18. Бронзавыя бранзалеты*






*Мал. 19. Арнаментацыя бранзалетаў*




*Мал. 20. Рэчы туалету: 1, 3, 4 – касцяныя грабеньчыкі,
2 – капавушка, 5 – брытва*




*Мал. 21. Скураныя вырабы*




*Мал. 22. Вязанка (пляцёнка) і вышыўка: 1 – схема вязання рукавіцы з Віцебска, 2, 3, 5–8 – узоры вышывак на абутку, 4 – вышыты каўнер (в. Лісна Верхнядзвінскага раёна), 9 – скураны вышыты пояс з Гродна*




*Мал. 23. Сярэбраныя і залатыя ўпрыгожванні: 1–9 – сярэбраныя ўпрыгожванні, 10–13 – залатыя ўпрыгожванні (10, 11 – Гродна, 12 – Барысаў, 13 – Мінск)*




*Мал. 24. Крыжы-складкі (энкалпіёны)*




*Мал. 25. Упрыгожванні з гараўлянскага скарбу (Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці)*



*Мал. 26. Рэканструкцыя касцюма дзяўчыны з Браслаўшчыны (XI–XII стст.)*

## ЗМЕСТ



Навукова-папулярнае выданне

**Дучыц Людміла Уладзіміраўна**

**КАСЦЮМ ЖЫХАРОЎ БЕЛАРУСІ**
**X–XIII стст.**
(паводле археалагічных звестак)

3-е выданне

Рэдактар *Г. А. Баранава.* Карэктар *Т. С. Фашчук.*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец.* Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен.*
Камп'ютарная вёрстка *В. А. Таўстая*

Падпісана ў друк 09.02.2005 г. Фармат 60х90 1/16. Папера афсетная. Гарнітура Таймс ЕТ. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 5,0. Ум. фарб.-адб. 5,5. Ул.-выд. арк. 5,05. Тыраж 500 экз. Заказ 398.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская навука». ЛИ № 02330/0056800 ад 30.04.2004 г. 220141. Мінск, Старабарысаўскі тракт, 40.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства «Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня». ЛП № 02330/0056846 ад 30.04.2004 г. 225409. Баранавічы, Савецкая, 80.